ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

16 снежня 1994 г. № 50 (3772) Кошт 75 руб.

## ТАБЕ ПАЛАВІНА І МНЕ ПАЛАВІНА

***Гутарка карэспандэнта "ЛіМа" з дырэктарам Першага Рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду Аляксандрам УТЛІКАМ.***

**3—4**

## ЯКАЯ ЯНА, ПРАЎДА ВАЙНЫ?

***Генадзь БАРКУН: "Мы імкнёмся выпрацаваць новую канцэпцыю ў асвятленні падзей Вялікай Айчыннай вайны. Канцэпцыю гэтую ў двух словах можна сфармуляваць так: поўная аб'ектыўнасць, поўная незалежнасць ад якіх бы там ні было ідэалагічных догмаў".***

**5, 12**

## ДОМ ПАД ЛЕСАМ

***Апавяданне Марыі ВАЙЦЯШОНАК.***

**8, 9, 15**

## ЗЯЛЁНАДУБЦЫ І ІНШЫЯ

***Ніна СТУЖЫНСКАЯ: "Атаманшчына — з'ява тыповая для Беларусі ў першае паслякастрычніцкае дзесяцігоддзе. Вобраз атамана, як азвярэлага, крыважэрнага кулака ў савецкай гістарычнай літаратуры бессаромна сфальсіфікаваны. "Тыповы бандыт" на самай справе, як правіла, паходзіў з сялянскай сям'і, дарэчы, не заўсёды заможнай, меў адукацыю, афіцэрскія пагоны і ўзнагароды атрымаў на франтах першай сусветнай вайны, дзе набыў і першы палітычны вопыт".***

**14—15**



## І ВЯРТАННЕ — ЯК АЧЫШЧЭННЕ

На працягу мінулага навучальнага года ў мінскай сярэдняй школе N 11 прайшлі чатыры ўрокі Адраджэння (мы паведамлялі пра іх), ініцыятарамі правядзення якіх выступіла выдавецтва "Мастацкая літаратура" і рэдакцыя "Настаўніцкай газеты". Адначасова яны сталі і прэм'ерамі чатырох кніг, выпушчаных "МЛ" — "Спадчына маёй маці" У. Зянько, "Жыве Беларусь" Я. Купалы, "Злая зорка" І. Шамякіна, "Споведзь" Л. Геніюш.

І вось чарговы, пяты ўрок. Вучні, настаўнікі сабраліся разам, каб пазнаёміцца са свайго роду анталогіяй беларускай эміграцкай паэзіі "Туга па Радзіме" (укладанне, прадмова і біяграфічныя даведкі Б. Сачанкі). Выданне ўнікальнае — упершыню да чытача прыйшла ў такім поўным аб'ёме творчасць ажно пятнаццаці паэтаў. Пра іх і вялася гаворка ў час урока Адраджэння, што меў назву "Вяртанне дадому". Ён адначасова прысвячаўся памяці заўчасна пайшоўшага з жыцця празаіка У. Рубанава, які прымаў самы чынны ўдзел у папярэдніх уроках. Прысутныя ўшанавалі мінутай маўчання светлую памяць Уладзіслава Якаўлевіча.



Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ганна Сяргееўна Сасноўская падрабязна пазнаёміла ўсіх з жыццём і творчым шляхам тых, хто не па сваёй волі апынуўся за межамі Бацькаўшчыны, але назаўсёды захаваў любоў і ўдзячнасць да яе, за мяжой пастаянна адчуваў сябе БЕЛАРУСАМ.

Наталля Арсеннева, Вінцук Адважны, Масей Сяднёў, Рыгор Крушына, Уладзімір Клішэвіч... Называюцца імя за імем. Вучні чытаюць творы згаданага аўтара. Вершы — розныя, ды ці не ва ўсіх гучыць тая ж "туга па Радзіме", ці не ў кожным жаданне вярнуцца ў думках на Бацькаўшчыну. Вярнуцца, прайшоўшы праз ачышчэнне.

З паэзіяй суседнічалі песні, танцы, народная музыка. Школьнікі паказалі, на што здатныя. Мерапрыемства ладзіў школьны клуб "Спадчына", а ў ім сабраліся сапраўдныя таленты. Асаблівым поспехам карысталіся нумары ў выкананні ансамбляў "Вавёрачка" і "Жывіца".

Прадоўжылі ўрок літаратары — паэт, прэзідэнт чарнобыльскага фонду "Палескі смутак" М. Мятліцкі, вядомыя крытыкі і літаратуразнаўцы Я. Лецка і Г. Шупенька. Гаворка ішла аб праблемах нацыянальнага Адраджэння, падкрэслівалася вялікая роля ў гэтым працэсе школы. Адзначалася, што вопыт СШ N 11 варты пераймання. І не толькі школамі сталіцы, а і ўсёй нашай дзяржавы.

**Н. К.**



*На здымках: Генадзь Шупенька і Яўген Лецка; у час урока "Вяртанне дадому".*

*Фота Ю. БОНДАРАВА*

# ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ! «НЕ» — ЯЕ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ!




Апошнім часам узнікла пагроза нацыянальнаму Адраджэнню. Пачаўся шалёны наступ на беларусізацыю, робяцца спробы байкатаваць выкананне Закона аб мовах. Прытым ўсё гэта адбываецца па сутнасці з блаславення вярхоўных уладаў дзяржавы.

Не клапоціцца дзяржава — рупяцца свядомыя беларусы. У прыватнасці, падчас чарговага пасяджэння XV сесіі Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў ля яго будынка прайшла акцыя пратэсту супраць дыскрымінацыі беларускай мовы.

*Фота У. КАРМІЛКІНА*

# ПРЭЗЕНТУЕ «ТЭХНАЛОГІЯ»

Паліграфічная дзейнасць Незалежнай выдавецкай кампаніі "Тэхналогія" ўжо добра вядома на Беларусі. Заснаваная ў 1992 годзе чынным журналістам В. Багдановічам, "Тэхналогія" ад пачатку свайго існавання ўзяла кірунак культурна-адраджэнчы, патрыятычны. Сярод першых яе выданняў варта ўзгадаць "Ангельска-беларускі слоўнік" Я. Пятроўскага — рэдкае па сённяшнім часе выданне; другі год запар кампаніяй перавыдаюцца ў Беларусі нью-йоркская газета "Беларус" і кліўлендскі часопіс "Полацак".

Сёлетні год для "Тэхналогіі" выдаўся асабліва плённым. Пабачылі свет выданні "Minsk: A Historical Guide and Shont Administrative, Professional and Commercial Directory" Г. Пікарды ("Менск: гістарычны гід і адміністрацыйны, прафесіянальны і камерцыйны ўказальнік"), матэрыялы Міжнароднага кангрэса ў абарону дэмакратыі і культуры "Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя", лекцыя Д. Сораса "Сістэма фондаў Сораса" і, нарэшце, — кніга народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь У. Новіка "Беларусь — новая краіна ва Усходняй Еўропе" (на ангельскай, нямецкай і французскай мовах). Апошняе выданне, у якім карысна расказваецца пра гісторыю, палітычную і эканамічную сітуацыю, перспектывы развіцця Беларусі, ажыццёўлена сумеснымі намаганнямі "Тэхналогіі", міжнароднай асацыяцыі "Белфранс" і Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці.

З нагоды выхаду кнігі У. Новіка ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі 8 снежня была наладжана сустрэча з калектывам аўтараў (уключна з перакладчыкамі) і выдаўцамі. Адзначалася, што кніга пра Беларусь агульным тыражом каля 12 тыс. паасобнікаў ужо амаль цалкам распаўсюджана ў дыпламатычных і гандлёвых прадстаўніцтвах Рэспублікі Беларусь за мяжой, у міжнародных фінансавых, юрыдычных і грамадскіх арганізацыях. Адначасна, дзякуючы рэкламнаму дадатку, шмат якія беларускія фірмы і банкі атрымалі магчымасць наладзіць дзелавыя кантакты з еўрапейскімі і амерыканскімі партнёрамі. Улічваючы вялікі попыт на кнігу, выдаўцы мяркуюць у наступным годзе выпусціць яе дадатковы тыраж — у пашыраным, лепей афармленым выглядзе (у тым ліку і ў перакладзе на іспанскую мову). Прадстаўнікі замежных пасольстваў, якія выступілі на вечарыне, аднадушна ўхвалілі выданне.

Зараз НВК "Тэхналогія" шукае рэкламадаўцаў. Тэлефоны ў Менску 21-77-40 (адначасна і факс), 29-16-80.

**Ю. Л.**

Рэпліка

# МІЖНАРОДНЫЯ ДЗІВОСЫ

На лімаўскі стол лёг нядаўна замежны канверт. Прыгожанькі такі, вузенькі... Ды, як высветлілася, памылкова. Не нам пісьмо, а — выдавецтву "Мастацкая літаратура", куды мы яго і перапраўілі. Але адна дэталь нас дужа зацікавіла, а іменна — адрас, напісаны лацінкай: **Maserowa 17, Minsk ROSJA.** Мяркуючы па блакітным штампе, гэта запрашэнне на Познаньскі міжнародны кірмаш. Суседзі, называецца: не абазнаны, якая дзяржава мяжуе з Польшчай на ўсходзе...

А вось вам яшчэ адзін прыклад дзіўнай недасведчанасці. Міжнародны адукацыйны цэнтр, што размясціўся ў нашай сталіцы, паведамляючы ў рэкламнай брашуры пра кірунак дзейнасці і мерапрыемствы наступнага года, высока атэстуе сваіх супрацоўнікаў. Маўляў, больш паловы з іх валодаюць некалькімі заходнееўрапейскімі мовамі. Побач з рускай, рабочымі з'яўляюцца нямецкая і англійская. Вам не здаецца, што ў пераліку чагосьці не хапае?..

Самае цікавае, што далушчана недаравальная для дакладных немцаў памылка: большасць супрацоўнікаў цэнтра няблага валодаюць і мовай беларускай. Ці яна ўжо і за мову некаторымі не лічыцца?

Гэтыя міжнародныя арганізацыі — як міжпланетныя. Зусім не арыентуюцца ў палітычнай геаграфіі Зямлі...

**ЛІМАВЕЦ**

# ТАБЕ ПАЛАВІНА І МНЕ ПАЛАВІНА...

## НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ГУТАРЫЦЬ З ДЫРЭКТАРАМ ПЕРШАГА РЭСПУБЛІКАНСКАГА ІНВЕСТЫЦЫЙНАГА ФОНДУ АЛЯКСАНДРАМ УТЛІКАМ

***Акцыі, інвестыцыі, рынак, аўкцыён, нерухомасць, прыватызацыя, біржа, уласнасць, дылер, дыстрыб'ютар, менеджэр... Гэтыя і шмат якія іншыя словы няўхільна, настойліва і незваротна ўваходзяць у наша пасткамуністычнае жыццё, у наш усё яшчэ савецкі лексікон. Хоць, калі папраўдзе, значэнне, сутнасць большасці з іх разумеюць далёка не ўсе з нас.***

**Яно і не дзіўна: жыццё наша цягам доўгіх гадоў кацілася не шляхам, па якім пайшлі да цывілізаванага свету іншыя краіны, а пакручастай, калдобістай узбочынай, дзе не было і не магло быць рынкавых "дарожных знакаў". А між тым, асобныя азначаныя словы маюць ужо амаль наскае, "незамежнае" паходжанне. Сярод апошніх — і "прыватызацыя". Што такое "прыватны" — вядома кожнаму, а вытворнаму ад яго — "прыватызацыя" — вытлумачэнне дасць не кожны. Змест яго як быццам і не мудроны — зрабіць штосьці прыватным, яшчэ прасцей — нешта прысабечыць. Ды толькі — як гэта можна: прысабечыць магазін, цырульню ці, ажно цэлы завод? А кватэру? Яны ж — дзяржаўныя!**

**Ды — хопіць іроніі, самапасмешкі. Слова "прыватызацыя" хутчэй чым іншыя набыло ў нас, так бы мовіць, правы грамадзянства, бо з'ява, якую яно абазначае, увайшло ў наша жыццё і набывае, хоць і марудна, усё большы размах. Ды, бадай, апошняе слова ўсё ж лішняе. Размаху якраз і няма. Аб прыватызацыі ў нас, бадай, пакуль больш гавораць, чым займаюцца ёю. Працэс гэты, ці не галоўнейшы на шляху пераходу да рынкавых адносін, у нас пакуль што ў пачатковым стане. І шматлікія нюансы, тонкасці гэтай самай прыватызацыі для многіх і многіх застаюцца ўсё яшчэ за сямю замкамі.**

**Урэшце ж, прыватызацыя — у нашым, беларускім варыянце — гэта бясплатная перадача нам з вамі часткі дзяржаўнай уласнасці, прытым часткі немалой. Мадэль прыватызацыі — такая: 50 працэнтаў ацэначнай вартасці ўсіх прыватызуемых аб'ектаў аплачваецца грашыма, а рэшта — іменнымі прыватызацыйнымі чэкамі "Маёмасць". Менавіта чэкі зробяць нас з вамі ўласнікамі, а сяго-таго, калі пашанцуе, і багацеямі. Чаму ж мы не спяшаемся іх атрымліваць, а тым больш укладваць іх у акцыі? Як сведчыць Міндзяржмаёмасць, жыхары Беларусі атрымалі ўсяго недзе каля 50 мільёнаў чэкаў, а на куплю акцый іх выкарыстана ўсяго ці не дзесятая частка. Значыць, больш з 40 мільёнаў чэкаў у нас з вамі "на руках". Па той простай прычыне, што не ведаем: як іх выкарыстаць, куды і якім чынам іх укласці.**

**А тым часам розныя дзялкі, камерцыйныя фірмы, прыватныя камерсанты праз шматлікія абвесткі і афішкі заклікаюць нас прадаваць свае чэкі, па 800—1000 рублёў за штуку скупляюць іх без абмежаванняў. І многія з нас, як кажуць, "клююць" на гэтыя заклікі. А што зробіш? Спатрэбіліся тэрмінова грошы — вось і нясём прадаваць свае чэкі, свядома ставячы крыж на сваім удзеле ў прыватызацыі. Бо — лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе. Здай у банк пад працэнты на дэпазіт, а гарантыя якая? Колькі сёння развялося эмэмаў, дзе плакалі нечыя грошыкі?!**

**Самыя цвярозыя з нас выбіраюць трэці варыянт — купляюць акцыі інвестфонду. Але, але, таго самага — Першага Рэспубліканскага. Балазе, рэклама ягоная — паўсюль. І запэўнівае, што гэта — надзейна. Купіў акцыі і спі спакойна: маўляў, фонд інвестуе чэкі добрага дзесятка прадпрыемстваў, калі нейкае з іх і збанкруціцца, дык фонд усё адно застаецца "на кані", і асабіста нам з вамі банкруцтва не пагражае. А мо і праўда?**

**З гэтаю нейкаю інтуітыўнай сімпатыяй і вераю і пайшла я ў Першы Рэспубліканскі інвестыцыйны фонд і папрасіла аўдыенцыі ў ягонага дырэктара спадара Утліка — каб адказаў на некаторыя мае (а, пэўна ж, і вашыя, шаноўныя чытачы) пытанні і сумненні.**

**— Аляксандр Сцяпанавіч, перш за ўсё — раскрыйце дужкі рэкламы: што такое ваш фонд, якія, па-чалавечы кажучы, ягоныя мэты, функцыі, задачы?**

— Першы Рэспубліканскі інвестыцыйны фонд — гэта акцыянернае таварыства, у якім сёння больш за 45 тысяч акцыянераў. Гэта значыць, больш за 45 тысяч чалавек, якія за свае чэкі купілі альбо набылі нашы акцыі. Наш фонд, мабыць, сёння самы буйны ў краіне. Мы першыя на рынку каштоўных папер выпусцілі свае акцыі. Чэк "Маёмасць" каштуе дзве з паловай тысячы рублёў, а наша акцыя — адну тысячу. Такім чынам, за два, скажам, чэкі акцыянеры атрымліваюць пяць акцый. А далей фонд бярэ на сябе клопат ці функцыю купіць дзяржаўную маёмасць за гэтыя акумуляваныя намі чэкі. Якую маёмасць? Наш фонд інвестуе чэкі не ў адно ці два прадпрыемствы, а ў дзесяткі.

**— А калі канкрэтней? У якія прадпрыемствы?**

— На аўкцыёне мы будзем купляць акцыі тых прадпрыемстваў, якія абяцаюць надзейны, гарантаваны прыбытак. Якіх канкрэтна? Прыярытэт аддаём прадпрыемствам лёгкай і харчовай прамысловасці, будаўнічых матэрыялаў. Якія канкрэтна прадпрыемствы выставіць дзяржава на продаж у першую чаргу, пакуль што невядома. Нам бы хацелася б таксама інвеставаць, скажам, заводы нафтаперапрацоўчыя, азотных, калійных угнаенняў — на сёння гэта самыя прыбытковыя, валютныя прадпрыемствы.

**— Аднак у народзе ходзяць чуткі, што самыя прыбытковыя ўжо скуплены — калі не наменклатурай, дык прадстаўнікамі саміх прадпрыемстваў?**

— Ну, наконт наменклатуры — не ведаю, а што да рабочых калектываў, дык і для іх схема прыватызацыі тая самая: 50 працэнтаў кошту ўносіцца грашыма, 50 — чэкамі. Выкупіць свой завод толькі за грошы ніхто не зможа. Скажам, калектыў можа выкупіць палову акцый, а другую палову набудзе наш фонд ці які іншы. Ці ў нейкай іншай прапорцыі будзе набыты пакет акцый.

**— Аляксандр Сцяпанавіч, а хто ўсё-такі скупляе чэкі за наяўныя грошы? Аб'яў пра гэта — мноства, а калі ёсць прапановы, дык жа, пэўна, ёсць і збыт?**

— Купляюць многія юрыдычныя асобы, якія атрымалі дазвол адкрыць чэкавы рахунак, а таксама і фізічныя асобы. У жніўні — верасні, калі была няпэўнасць і пытанне аб прыватызацыі было ў падвешаным стане, такіх аб'яў было мала. А сёння, калі на прыватызацыю дадзена "добро", пакупнікі заварушыліся. Нехта збірае чэкі, каб прадаць іх пасля аб'екту, які хоча выкупіцца, і зарабіць на гэтым капітал; нехта, як мы, напрыклад, каб купіць у дзяржавы нейкую ці зусім пэўную маёмасць.

**— Нам, уладальнікам чэкаў, зрабіць правільны выбар вельмі нялёгка, набыццё акцый звязана з рызыкай. Пры сённяшняй нестабільнай сітуацыі рызыка гэтая павялічваецца. Вы можаце даць гарантыю надзейнасці? Сам ваш фонд не збанкруціцца?**

— Ну, па-першае, мы страхуем сваіх укладчыкаў, сваіх акцыянераў, іхнія акцыі. Уся сума чэкаў, якая ўкладзена ў акцыі, пры ліквідацыі фонду выплачваецца страхавой кампаніяй па рыначным кошце. Для насельніцтва, значыць, рызыкі няма. А вось заснавальнікі фонду, якія ўклалі свае сродкі, пры банкруцтве фонду страцяць укладзеныя грошы. Зрэшты, такі зыход малаверагодны. Паўсотні тысяч акцыянераў — гэта ўжо як сапраўды народнае таварыства. Ды і статутны наш фонд большы за 4 мільярды рублёў, ніводзін з банкаў не мае такога фонду. Таму банкруцтва нам не пагражае.

**— Яшчэ ў ліпені я атрымала свае прыватызацыйныя чэкі і ўсё трымаю іх дома. Што я страціла за гэты час? Можа, у ашчадкасе на мой рахунак налічваюцца на іх нейкія працэнты?**

— Вымушаны вас засмуціць: ніякіх працэнтаў вам не налічваецца, гэта ўсяго толькі запіс на ваш рахунак у ашчадкасе. А што вы страцілі, трымаючы чэкі дома? Мяркую, што сёе-тое страцілі. Наш фонд аб'яўляе ўжо пятую падпіску. Тым, хто ўклаў свае чэкі ў першую падпіску, мы плануем па выніках года выплаціць дывідэнты. Шмат мы, вядома, не абяцаем, не хочам хлусіць людзям. Сёння наша галоўная задача — зацікавіць людзей, каб нарэшце пайшоў працэс прыватызацыі і запрацаваў рынак каштоўных папер. Бо акцыяніраванне ідзе слаба. Але ж гэта — незваротны працэс. І ён будзе набываць тэмп. Ужо сёння адбываецца няўхільная змена гаспадара ўласнасці. І гэта падштурхоўвае, падганяе кіраўнікоў прадпрыемстваў варушыцца. Бо гаспадар прыходзіць як бы з вуліцы. Калі гэта буйны акцыянер, скажам, інвестыцыйны фонд, які валодае значным пакетам акцый таго ці іншага прадпрыемства, то новыя спецыялісты набываюць права кантраляваць, накіроўваць прадпрыемства, каб яно працавала прыбыткова, на карысць сваіх акцыянераў. Гэтае пераразмеркаванне ўласнасці дае магчымасць змяніць асартымент прадукцыі, нават профіль самога прадпрыемства, калі яно стала раптам працаваць стратна. Гэта значыць, за кошт пакета сваіх акцый можна ўздзей-

*(Працяг на стар. 4)*

## ПАД КУПАЛАМ КАСЦЁЛА



Прадаўжаючы традыцыі апошніх дзесяцігоддзяў, Чырвоны касцёл і пасля перадачы яго вернікам застаецца культурным цэнтрам Мінска. Днямі тут адбыўся дабрачынны канцэрт хору "Менка", які створаны пры Дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і быту. Пад купалам касцёла гучала духоўная музыка і спевы. У складзе "Менкі" — выпускнікі і навучэнцы Мінскага вучылішча мастацтваў.



*На здымках: у час канцэрта хору "Менка" ў Чырвоным касцёле.*
*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*

Меркаванне

# АФГАНСКІ СІНДРОМ

## АДНО ПЫТАННЕ З ГІСТОРЫІ... БЕЛАРУСІ?

Скажу адразу — я там не быў і таму маю меркаванне па расказах сяброў і знаёмых, якія перажылі тую вайну, а таксама па газетных і часопісных звестках.

Дзіўная рэч — чалавечая памяць... З цягам часу вымываецца з яе найбольш страшнае і цяжкае, затое лепшае, светлае набывае новае, ідэальнае жыццё. Вось і афганскія падзеі відвочцы ўсё менш памінаюць благім словам, а часцей згадваюць то недарэчны выпадак, то забаўны анекдот, то якуюсь экзатычную прыгоду. За гэтай бравурнай бывальшчынай ці аптымістычна-геройскай завесай неяк забываецца сутнасць самой вайны, тым больш такой несправядлівай і непатрэбнай, як апошняя авантура савецкай ваеншчыны.

Асабліва відавочна гэта на фоне нашай сённяшняй рэчаіснасці, калі "афганскі сіндром", як і іншыя "плямы сацыялізму", цягне назад і зноў нагадвае пра магчымасць вяртання ў імперскія часы. Вось і гісторыя з будаўніцтвам помніка ў Траецкім прадмесці Мінска сведчыць аб такой тэндэнцыі. Справа не толькі ў эстэтычных ці горадабудаўнічых вартасцях мемарыяла, а ў прынцыпах, якія сутыкнуліся з гэтай нагоды.

Першы з іх добра вядомы — ён бярэ пачатак з 80-х, калі "героі Афганістана" былі "ўшанаваны" уладамі і лічыліся абаронцамі радзімы нароўні з ветэранамі ВАВ. Гэта цалкам адпавядала афіцыйнай дактрыне аб "дапамозе брацкаму народу" і "святым інтэрнацыянальным абавязку савецкага салдата". Сёння ўголас такімі словамі кідаюцца рэдка, але думаюць так не толькі камуністы і "народарухаўцы". Можна зразумець бацькоў загінуўшых і многіх "афганцаў", якім цяжка ўсвядоміць, што столькі сіл і жыццяў аддадзена непатрэбнай і зусім не святой справе, а галоўнае — прызнацца сабе, што супрацьстаяць гэтаму злу калісь не хапіла ні смеласці, ні волі, ні розуму.

Крыўдна і балюча, але што зробіш. Сёння разважаць лягчэй, чым у той час, калі кожны з нас быў прыціснуты цяжарам таталітарнай сістэмы, толькі адзінкі здолелі паўстаць супраць яе.

І ўсё ж жыццё не спынілася, а зрабіла вялікі крок наперад, адкрыла новыя праблемы і перспектывы, ад якіх не засталася ўбаку і Беларусь. Таму законна паўстае пытанне, што для нашай маладой краіны і яе народа азначае афганская вайна? Відавочна ўжо цяпер, што гэта далёка не цэнтральная падзея беларускай гісторыі, бо знаходзіцца яна ў шэрагу такіх імперскіх акцый, як фінская вайна, інтэрвенцыя ў Венгрыі і Чэхаславакіі і г.д. Праз 50 год аб ёй будуць ведаць не больш, чым пра каўказскую і туркестанскую кампанію XIX ст., а шанаваць яе (нават у Расеі) яшчэ менш, бо закончылася яна паразай і заняпадам савецкай звышдзяржавы. Але для нас гэта не самае важнае. Стрыжань усяе праблемы палягае ў палітычнай, а ў перспектыве — і ў маральнай плоскасці.

Тыя, хто сёння імкнецца ідэалізаваць і гераізаваць афганскую кампанію, прызнаць яе справядлівасць і законнасць, заплюшчваюць вочы на сапраўдныя прычыны гэтай савецкай авантуры, яе сапраўдных арганізатараў і натхняльнікаў. Вінаваціць у нечым С.Алексіевіч ці беларускую інтэлігенцыю могуць людзі толькі аслепленыя горам, вайной ці камуністычнымі забабонамі. Відаць, іх цяжка чым і папракаць. Хіба што — будучыняй. Бо калі "афганскі сіндром" пераможа на Беларусі, калі рамантыка і пафас вялікадзяржаўнага мілітарызму перасіляць здаровы сэнс і мірны беларускі патрыятызм, то нашым хлопцам прыйдзецца ўдзельнічаць і ў кампаніях, запланаваных самім панам Жырыноўскім. І хто ведае, можа, тыя ж абаронцы "афганскага подзвігу" будуць дабівацца ўзвядзення манумента "героям прарыву на Дарданелы", мемарыяла "ўдзельнікам паходу да берагоў Індыйскага акіяна" ці яшчэ якога помніка "рыцарам інтэрнацыянальнага доўгу". Гэта вельмі лагічны і даволі рэальны шлях, і калі беларусам не зразумець яго небяспеку сёння, то заўтра нашым жанчынам зноў прыйдзецца аплакваць сыноў, загінуўшых невядома дзе і невядома за што. Гэта той выпадак, калі палітыка і мараль пераплятаюцца ў адно цэлае, а нам ужо можна выбіраць сваю палітыку, а ўрэшце — і сваю мараль.

Безумоўна, помнік ахвярам афганскай вайны як напамін аб іх трагічным лёсе нам патрэбны. Гэта аксіёма. Але навошта ставіць яго ў старажытным цэнтры беларускай сталіцы, навошта ўзводзіць яго ў асяродку нацыянальнай свядомасці? У лепшым выпадку гэта будзе спрыяць фетышызацыі тых сумных падзей, а ў горшым — з'явіцца яшчэ адзін апорны пункт т.зв. "ваенна-патрыятычнага выхавання ў духу..." Куды завядзе той дух — добра вядома. Таму трэба спакойна спыніцца і разабрацца, што для нас лепш — ахоўваць і гадаваць "афганскі сіндром" ды іншыя горкія імперскія плады ці будаваць самастойную міралюбівую дзяржаву, без савецкага мілітарызму і цудадзейных спадзяванняў на чужога дзядзьку з грашыма ці са стрэльбай. Галоўны цуд — у нашых галовах, а ўсе спадзяванні — толькі на мір і на свае рукі. Праўда, каб зразумець гэта, патрэбен сапраўдны цуд — самапазнання і самаадкрыцця.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

# ТАБЕ ПАЛАВІНА І МНЕ ПАЛАВІНА...

*(Пачатак на стар. 3)*

нічаць на работу выкупленага прадпрыемства. Гэта шырока практыкуецца, напрыклад, у Чэхіі, дзе я нядаўна быў. Акцыяніраванне там вельмі актывізавала многія заводы і фабрыкі, і яны запрацавалі значна лепш. У гэтым плане нас на гады тры абагнала і Расія.

Вось чаму наш галоўны клопат — разварушыць людзей. Аднак жа хачу падкрэсліць, што канцэпцыя нашага фонду заключаецца не столькі ў выплаце хуткіх дывідэнтаў, колькі ў развіцці прадпрыемстваў. Калі завод, скажам, будзе працаваць стабільна, калі ён набудзе статус прэстыжнага, перспектыўнага, дык і акцыі ягоныя будуць расці ў цане. На першым этапе частку прыбыткаў трэба накіроўваць на развіццё вытворчасці, рабаваць, асуджаць прадпрыемства на адставанне ад прагрэсу — нельга. Як кажуць, кінеш ззаду — знойдзеш наперадзе. Гэта ж відавочна: калі аб'екты будуць працаваць нармальна, дык і курсавы кошт яго акцый будзе павялічвацца. І такія прыклады ёсць. Мы сёння выстаўляем свае акцыі на біржавыя таргі. Калі нашы акцыі каштавалі па тысячы сто рублёў за чэкі, дык на біржы пэўныя пакеты іх прадавалі за тры з паловай тысячы.

**— Значыць, у нас ёсць ужо біржа каштоўных папер?**

— Ёсць! Гэта Беларуская фондавая біржа. На ёй адбываюцца розныя здзелкі па продажу акцый. У аўкцыёнах прымаюць удзел фізічныя і юрыдычныя асобы, прызнаныя суб'ектамі прыватызацыі ў адпаведнасці з законам "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці ў Рэспубліцы Беларусь". Мы свае акцыі, паўтаруся, таксама выстаўлялі. Было ўжо чатыры выпускі. Зараз ідзе падпіска, я ўжо таксама гаварыў, на пяты выпуск. Але рынак каштоўных папер у нас вельмі вялы, калі па вялікім рахунку, дык яго, можна сказаць, пакуль што няма. Біржа нібыта і дзейнічае, прадаюцца там акцыі некаторых прадпрыемстваў, але абарот надзвычай мізэрны.

Тым не менш, я веру, што з цягам часу і ў нас будзе сапраўдны рынак каштоўных папер. Некалі і мы зразумеем, што акцыя — гэта сапраўды каштоўная папера, што яна можа каціравацца нават вышэй за валюту. Калі чалавек будзе мець акцыі якога-небудзь прадпрыемства ці фонду і калі яму раптам спатрэбяцца грошы, дык ён заўсёды зможа частку тых акцый прадаць і іх у яго з задавальненнем купяць, — як сёння гэта ёсць у цывілізаваным свеце.

**— Аляксандр Сцяпанавіч, якія дакументы гарантуюць уладальніку чэкаў "Маёмасць", які прыйшоў да вас, што ваш фонд нікуды не дзенецца, што ён не растане, "как сон, как утренний туман"?**

— Мы маем дзве ліцэнзіі. Адну — ад Дзяржінспекцыі па каштоўных паперах, другую — ад Міністэрства дзяржмаёмасці. Яны і гарантуюць нашы — і вашы, нашых акцыянераў — законныя правы.

**— А, выбачайце, якія яшчэ ёсць інвестыцыйныя фонды, акрамя вашага?**

— Зарэгістравана ўжо недзе больш за два дзесяткі інвестыцыйных фондаў. Ёсць яны ў Віцебску, Мазыры, Бабруйску, Брэсце, Оршы, у Мінску, акрамя нашага, — "Нерухомасць і фінансы", "Дайнова-інвест", "Дукат-інвест", "Сатурн-інвест", "Супрымэкс" і іншыя. Ёсць фонды, якія абяцаюць высокія дывідэнты, аднак мы за самамэту гэта, як я казаў, не ставім, Мы павінны валодаць нармальнай, так бы мовіць, уласнасцю, якая б нармальна, надзейна і з прыбыткам, працавала на нашых акцыянераў. Наш фонд працуе па ўсёй краіне, намі адкрыта больш за тры дзесяткі прадстаўніцтваў ва ўсіх абласных цэнтрах, у многіх буйных гарадах і раёнах. Нядаўна мы заключылі дамову з ашчадным банкам, і зараз любы чалавек можа падпісацца на нашы акцыі ў любым ягоным аддзяленні.

**— Цікава, Аляксандр Сцяпанавіч, якія пласты насельніцтва найбольш актыўна становяцца вашымі акцыянерамі, хто смялей рашаецца развітацца са сваімі чэкамі?**

— Адказ адназначны: пенсіянеры. Сам чэк і працэдура яго атрымання ў нас вельмі ўскладнёныя. У Расіі, скажам, людзі адразу ж атрымлівалі чэкі і тут жа маглі рабіць з імі ўсё, што захочуць. У нас жа імянны прыватызацыйны чэк існуе толькі ў выглядзе запісу на асабовым рахунку таго ці іншага грамадзяніна. Атрыманы сертыфікат — яшчэ не чэк, гэта толькі права распараджацца ім, самую ж аперацыю продажу ці куплі чэкаў трэба рабіць толькі праз ашчадны банк, там, дзе адкрыты, скажам, ваш асабовы рахунак. Трэба сабраць стос даведак, каб атрымаць прыватызацыйныя чэкі. Гэта і адпалохвае людзей. Расхалоджвае іх і тое, што тэрміны выдачы чэкаў расцягнуты ажно на тры гады. Праўда, мяркуецца ў хуткім часе скараціць гэты тэрмін да 1 ліпеня наступнага года. Думаю, што гэта падштурхне людзей. Дык вось, у пенсіянераў ёсць час на ўсе гэтыя клопаты і турботы. Ёсць і яшчэ адзін фактар на карысць пенсіянераў. На праўленні акцыянераў мы прынялі пастанову аб тым, каб 15 працэнтаў мінімальнай зарплаты, якія былі затрачаны на афармленне папер дзеля атрымання чэкаў, вярнуць пенсіянерам, маламаёмным і маладым сем'ям.

Газета "Літаратура і мастацтва", якую вы прадстаўляеце, зарыентавана на пэўныя пласты насельніцтва — гэта значыць, пераважна на інтэлігенцыю. Карыстаючыся нагодай, хачу сказаць, што ў справе прыватызацыі яна, інтэлігенцыя, павінна праяўляць значна большую актыўнасць, чым на сённяшні дзень. Я ўпэўнены, што працэс акцыяніравання наладзіцца і пойдзе ў нас нармальна, і ён закране літаральна кожнага з нас, у тым ліку і людзей разумовай працы. Усе мы маем права выбіраць, як выкарыстаць свае законныя, заробленыя сумленнай працай чэкі, і павінны будзем зрабіць свой выбар.

**— Дзякую, Аляксандр Сцяпанавіч, за гутарку!**

Сапраўды, усе мы, уладальнікі чэкаў, пакуль што маем час для выбару напрамку іх выкарыстання. Ды, на жаль, і напрамкі гэтыя, і перспектывы будучых дывідэнтаў усё яшчэ досыць цьмяныя. Бо — цьмяная наша сённяшняя эканамічная сітуацыя. Чым хутчэй народная гаспадарка краіны стане на рэйкі стабілізацыі, тым больш адчувальнымі будуць для нас з вамі і тыя даброты, якімі мяркуе надзяліць нас дзяржава, перадаючы бясплатна праз прыватызацыйныя чэкі палову сваёй маёмасці.

**Гутарку правяла і занатавала**
**Марыя ГІЛЕВІЧ**

## ВАЛЬТЭР ДУМАЎ ПРА... БЕЛАРУСЬ

**Споўнілася 300 гадоў з дня нараджэння знакамітага французскага пісьменніка, публіцыста, філосафа Вальтэра. Менавіта пад такім псеўданімам увайшоў у гісторыю Франсуа Мары Аруэ. Гэтай знамянальнай даце прысвечана спецыяльная выстаўка, якая працуе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Кнігі, прадстаўленыя на ёй, а таксама звесткі, пачэрпнутыя з энцыклапедычных даведнікаў, даюць уяўленне аб тым, наколькі Вальтэр аказваў уплыў на тагачаснае жыццё Беларусі.**

**Яго асноўныя творы былі вядомы тут у перакладах на рускую і польскую мовы. Прынамсі, у 1776 годзе ў Гродне на польскай мове выйшла філасофская аповесць "Задыг, або Лёс" пад назвай "Усходняя гісторыя пра Задыга". У 1793 годзе ў Вільні з'явіўся адзін з найбольш вядомых гістарычных твораў Вальтэра "Век Людовіка XIV" (Т. 1—2). Асобныя п'есы французскага мысліцеля ставіліся ў тэатрах Нясвіжа, Вільні, Слоніма і іншых гарадоў. Вялікай папулярнасцю карысталася французская "Энцыклапедыя". Выданне яе, як вядома, узначальваў Д. Дзідро, а плённа з ёй супрацоўнічаў Вальтэр.**

**Цікавасць да твораў Вальтэра на Беларусі вытлумачваецца тым, што ён рэзка выкрываў тагачасны рэлігійны фанатызм каталіцкай царквы, асуджаў ганенні на пратэстантаў і праваслаўных. Яго ідэі, погляды прапагандавалі прадстаўнікі перадавой грамадскай думкі Ф. Галянскі, К. Багуслаўскі, І. Лялевель і іншыя.**

**У той жа час былі і напады на Вальтэра. Напрыклад, у 1781 годзе ў Вільні пабачыла свет кніга "Жыццё і памылкі Вальтэра" — скарочаны пераклад на польскую мову твора абата К. Нанота "Памылкі Вальтэра", у якой даваліся прадузятая ацэнка дзейнасці і поглядаў мысліцеля.**

1945-1995

# ЯКАЯ ЯНА, ПРАЎДА ВАЙНЫ?

## З ДЫРЭКТАРАМ БЕЛДЗЯРЖМУЗЕЯ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ Г. БАРКУНОМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА" М. ЗАМСКІ

**М. ЗАМСКІ: — Раіса Андрэеўна Чарнаглазава, шматгадовы загадчык партызанскага аддзела вашага музея, чалавек апантаны і надзіва дасведчаны ў сваёй справе, расказвала неяк мне пра візіт групы нямецкіх турыстаў, якіх пасля азнаямлення з музейнай экспазіцыяй папрасілі, як гэта бывае, падзяліцца сваімі ўражаннямі. Пажылыя немцы, якія былі прыкметна ўзрушаны ўсім убачаным, на пытанне, ці патрэбны ў наш час, праз столькі гадоў пасля вайны, такія музеі, ці трэба, так бы мовіць, мацаваць памяць аб жахлівым ваенным ліхалецці, у адзін голас адказалі — так, абавязкова трэба: каб гэтага больш ніколі не паўтарылася. А вось іх маладыя супляменнікі, якія належалі ўжо да пасляваенных пакаленняў, трымаліся процілеглай думкі: маўляў, вайна, распачатая гітлераўскай Германіяй, — гэта ўжо факт гісторыі, і трэба глядзець наперад, а не назад...**

**Г. БАРКУН:** — З такімі поглядамі даводзіцца сустракацца і ў нас, у краіне, якая, мо як ніякая ў свеце, зведала ўсе жахі вайны, страціла кожнага свайго чацвёртага жыхара, а ў некаторых сваіх абласцях, скажам, у той жа Віцебскай, яшчэ і сёння не аднавіла даваеннага ўзроўню насельніцтва. Што датычыць немцаў, дык менавіта ў Германіі цяпер сярод значнай часткі грамадства вельмі папулярныя матывы пакаяння за злачынствы гітлераўцаў у гады мінулай вайны.

**— Ды і наогул, гітлераўская, расісцкая ідэалогія там, у Германіі, пастаўлена па-за законам. Кожны факт распаўсюджвання нацысцкай літаратуры там абарочваецца скандалам на ўсю краіну. Я нядаўна чытаў, што толькі за выказанае на адным з мітынгаў сумненне ў існаванні ў гады вайны гітлераўскіх лагераў смерці дзеяч адной з мясцовых грамадскіх суполак атрымаў год турмы, і амаль усе газеты абураліся з гэтай нагоды мяккім прысудам. І гэта ў той час, як у Маскве фашысцкая прапаганда ледзь не легалізавана, а на вуліцах расійскай сталіцы можна ўбачыць маршыруючых малойчыкаў са свастыкай на рукавах.**

— Такі музей, як наш, і павінен, акрамя ўсяго іншага, адыгрываць ролю своеасаблівага прафілакторыя супраць рэцыдываў карычневай чумы, якія сям-там успыхваюць.

**— Бачыце, Генадзь Іванавіч, куды адразу выкіравала нашу гаворку! А я ж меркаваў першыя свае пытанні да вас прысвяціць слаўнаму юбілею Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны — яго 50-годдзю, якое нядаўна адзначыла грамадскасць рэспублікі. Так што, калі ласка, колькі слоў пра гісторыю вашага музея, некалі вядомага на ўвесь былы СССР. Значыць, канец 1944 года...**

— Гэта, ведаеце, дата афіцыйная, а фактычна сваю гісторыю мы вядзём з 1942 года, калі ў Маскве, у Гістарычным музеі, па ініцыятыве ЦК КПБ была створана выстаўка "Белоруссия живет, Белоруссия борется". Праз год, калі былі вызвалены ад нямецкіх акупантаў першыя раёны Беларусі, ЦК КПБ была прынята пастанова "Аб стварэнні Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны". Адразу ў партызанскія злучэнні і атрады, у тыл ворага, былі адпраўлены радыёграмы з прапановай арганізаваць збор дакументаў, іншых сведчанняў змагання народа з ненавісным ворагам.

Літаральна праз месяц пасля вызвалення сталіцы Беларусі ў ацалелым сярод нямногіх будынкаў Мінска — Доме прафсаюзаў на плошчы Свабоды — група энтузіястаў, былых партызан, прыступіла да фарміравання першай экспазіцыі новага музея, афіцыйнае адкрыццё якой адбылося 22 кастрычніка 1944 года. Гэтая дата і лічыцца нашым днём нараджэння.

**— Цікава, з чым маглі пазнаёміцца першыя наведвальнікі музея?**

— Як самі разумееце, з экспанатамі па першым часе было не густа. Ні пра які сур'ёзны пошук, сур'ёзнае даследаванне, — тое, што ў наступныя дзесяцігоддзі стала асноўным зместам работы музея, тады гаворкі не вялося, ды і вайна ж яшчэ была ў поўным разгары. Тая першая экспазіцыя складалася з трох раздзелаў: знаёміла з партызанскім друкам — друкаванымі і рукапіснымі газетамі і часопісамі, улёткамі, малюнкамі партызанскіх мастакоў і г. д., зброяй, якой карысталіся народныя мсціўцы, і, нарэшце, частка экспазіцыі была прысвечана аднаўленню Мінска, іншых гарадоў і паселішчаў вызваленай Беларусі.

**— А колькі экспанатаў у музеі зараз?**

— На "музейнай мове" экспанат называецца адзінкай захоўвання. Дык вось, такіх адзінак захоўвання ў нас зараз — 126 тысяч.

**— Яшчэ трошкі "цікавых" лічбаў. Ці вядзецца падлік, колькі за гады існавання музея ў ім пабыло людзей?**

— Больш як 12 мільёнаў чалавек. У асобныя гады з экспазіцыяй музея знаёмілася да паўмільёна наведвальнікаў.

**— А цяпер?**

— Летась — толькі 85 тысяч. Праўда, сёлета будзе крыху больш — за прайшоўшыя дзесяць месяцаў колькасць наведвальнікаў ужо склала каля ста тысяч чалавек.

**— Адным словам, у параўнанні з мінулымі гадамі музей сталі наведваць намнога радзей. Гэта тлумачыцца зніжэннем інтарэсу да самой тэмы вайны?**

— Я б не сказаў. Усё тлумачыцца больш празаічнымі абставінамі. Не сакрэт, што асноўны кантынгент наведвальнікаў музея (і, вядома, не толькі нашага) фарміраваўся за кошт турыстаў, якія прыязджалі ў Мінск з іншых рэспублік былога Саюза, іншых гарадоў Беларусі. Сёння турыстычны рух у значнай ступені заглух. Чаму заглух, я думаю, зразумела кожнаму. Не тое што з Сярэдняй Азіі ці Каўказа, а і з блізкіх Расіі ці Украіны мала сёння знойдзецца аматараў паехаць да нас турыстамі пры існуючых шалёных цэнах на чыгуначны транспарт, не кажучы ўжо пра астатнія расходы. Калі ў каго і ёсць грошы, дык ён хутчэй паедзе "турыстам" на які-небудзь турэцкі базар.



*У толькі што вызваленым Мінску*

Некаторыя мае былыя аднакурснікі працуюць дырэктарамі і настаўнікамі школ у розных раёнах рэспублікі. Колькі разоў звяртаўся да іх з запрашэннем прыехаць з вучнямі ў Мінск, у наш музей, і амаль заўсёды чую аднолькавае тлумачэнне: няма грошай нават наняць аўтобус...

І, разам з тым, даводзіцца прызнаць, што ўсё-такі пік інтарэсу да падзей мінулай вайны застаўся ззаду. Затое пышным цветам расцвілі ўсемагчымыя спекуляцыі вакол таго, што адбывалася на нашай зямлі ў векапомныя гады Айчыннай вайны. Асабліва актыўна праяўляюць сябе на гэтай ніве некаторыя гісторыкі, якія яшчэ зусім нядаўна навыперадкі адзін перад адным дэманстравалі сваю адданасць сістэме, яе прапагандысцкім пастулатам, у тым ліку і тым, што тычыліся вайны з гітлераўскай Германіяй, а цяпер раптам "прозрели" і пачалі адкрываць для сябе "ісціны", якіх быццам бы не ведалі раней.

**— Мне яны таксама маласімпатычныя, тым больш, што многія з іх, працуючы ў "элітных" навуковых установах, тыпу Інстытута гісторыі КПБ, нямала наблыталі ў асэнсаванні многіх падзей вайны, у прыватнасці, партызанскага руху на Беларусі. І ўсё-такі давайце пагодзімся, Генадзь Іванавіч, што погляд на вайну, нават такую, як Вялікая Айчынная, яе асэнсаванне ў гістарычным плане не можа быць катэгорыяй раз і назаўсёды застылай. Яна не можа не мяняцца ў многіх сваіх аспектах ужо хаця б таму, што камуністычная ідэалогія, якая дзесяцігоддзямі фарміравала нашы погляды на гісторыю краіны, у тым ліку і на гісторыю вайны з гітлераўскай Германіяй, сама адпачатку кіравалася партыйнымі догмамі, фальшывымі ў сваёй аснове. Вы ж не будзеце адмаўляць, Генадзь Іванавіч, што, кажучы па-руску, у "приснопамятные" часы і музеі лічыліся ўстановамі "ідэалагічнага фронту" з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі. Упэўнены, што работнікі ідэалагічных аддзелаў ЦК КПБ не абміналі сваёй увагай музей гісторыі Айчыннай вайны, кантралюючы як яго экспазіцыі адпавядаюць партыйным установкам...**

— Хто гаворыць! Партыя накіроўвала і арганізоўвала... І я, прадбачачы ваша магчымае пытанне, хачу сказаць, што мы імкнёмся выпрацаваць новую канцэпцыю ў асвятленні падзей Вялікай Айчыннай вайны. Канцэпцыю гэтую ў двух словах можна сфармуляваць так: поўная аб'ектыўнасць, поўная незалежнасць ад якіх бы там ні было ідэалагічных догмаў.

**— Я не рэдкі госць у вашым музеі і, шчыра кажучы, не заўважыў яшчэ нейкіх змен, пацвярджаючых гэтую вашу канцэпцыю.**

— Гэтая праца разлічана не на адзін месяц і год. Тут жа не абыдзешся механічнай заменай аднаго дакумента другім. Але сёе-тое ў гэтым напрамку робіцца. Пачатак знаёмства з экспазіцыяй музея пачынаецца з залы, прысвечанай самому пачатку вайны, і дакументы, прадстаўленыя там, мяркую, даюць уяўленне аб трагізме тых першых дзён пасля нападу гітлераўскай Германіі. Раней нам бы і блізка не дазволілі акцэнтаваць увагу наведвальнікаў на дакументах, якія засведчылі, што напад немцаў быў для нас раптоўным, што ў першыя ж дні Чырвоная Армія панесла велізарныя страты ў жывой сіле і тэхніцы, фактычна, за лічаныя тыдні здала немцам усю Беларусь.

**— Ведаеце, Генадзь Іванавіч, хоць слоўнік тлумачыць паняцце "музей" як "установу, якая займаецца збіраннем, захоўваннем і дэманстрацыяй помнікаў мастацтва, прадметаў тэхнікі, навуковых калекцый, прадметаў, што ўяўляюць гістарычны інтарэс", я ўсё ж лічу, што сам па сабе дакумент, які адлюстроўвае нейкі факт гісторыі, далёка не заўсёды дае аб'ектыўную карціну з'явы. Як казаў Максім Горкі, факт — гэта "неощипанная курица". Ён патрабуе аналітычнага падыходу. Узяць хоць бы стэнд аб савецкіх ваеннапалонных у мінулай вайне...**

— Тыя нямецкія лістоўкі-пропускі для здачы ў палон таксама раней і [illegible] ці маглі ў нас дэманстравацца...

**— Але ж для поўнай праўды, відаць, трэба было паказаць і тое, як жорстка ставіўся сталінскі рэжым да тых, хто не па сваёй волі трапіў у палон да немцаў, а такіх было не адзін мільён. Неўзабаве пераважная большасць іх трапіла з аднаго пекла ў другое — з фашысцкіх лагераў ваеннапалонных у наш "гулаг". Гэта, Генадзь Іванавіч, вартае таго, каб быць адлюстраваным у музейнай экспазіцыі?**

— Думаю, што так. Як і многае іншае, на што ідэалагічнымі службамі ў нядаўнім мінулым было накладзена жорсткае табу. Гэта тычылася, напрыклад, амаль усяго, што мела адносіны і да жыцця на акупаванай ворагам тэрыторыі. А "пад немцам" жа засталіся жыць мільёны людзей. Захаваліся тысячы дакументаў аб дзейнасці акупацыйных улад, розных мясцовых фарміраванняў, напрыклад, той жа паліцыі...

**— На гэты конт можна сёння пачуць нямала спекуляцый, асноўны матыў якіх наступны: не трэба строга судзіць гэтых людзей, бо яны нібыта ішлі ў паліцыю па ідэйных меркаваннях, жадаючы бачыць сваю радзіму незалежнай. Я перагартаў безліч дакументаў — заявы аб паступленні ў паліцыю, напісаныя навaспечанымі паліцаямі іх аўтабіяграфіі, справаздачы аб дзейнасці розных паліцэйскіх фарміраванняў і г. д. І прыйшоў да высновы — асноўны кантынгент паліцыі складаўся з**

*(Працяг на стар. 12)*



*Група народных мсціўцаў Пінскага партызанскага злучэння, якое ўзначальваў Васіль Корж*

## ХУТА БЕРУЛАВУ — 70

**Вядомы грузінскі паэт Хута Берулава належыць да творцаў, хто падтрымлівае цесныя сувязі з іншымі літаратурамі. Прынамсі, у яго моцныя кантакты з літаратурай беларускай. У 1972 годзе Хута Міхайлавіч прыняў удзел у Тыдні літаратур народаў СССР, што праходзіў на Беларусі. Меў нямала сяброўскіх сустрэч, асабістых кантактаў. Па вяртанні на радзіму напісаў паэму "Хвалі Нёмана. Дванаццаць песень пра Беларусь". Яна была надрукавана ў 1973 годзе і ў тым жа годзе ў перакладзе Р. Барадуліным на беларускай мове. Дарэчы, творы Х. Берулавы перакладалі таксама А. Вольскі, А. Грачанікаў, Х. Жычка, В. Зуёнак, В. Лукша, У. Паўлаў, Я. Семяжон і іншыя. На беларускай мове выйшла яго кніга "Лісты надзеі" (1983). У сваю чаргу Х. Берулава пераўвасабляе па-грузінску творы беларускіх паэтаў.**

**Віншуем Хута Міхайлавіча з днём нараджэння! Няхай доўжыцца яго жыццёвы і творчы шлях!**

## "КАБ ПРАЦЯГ АДЧУВАЎ ПАЧАТАК"

**Споўнілася дзесяць гадоў Мінскаму культурна-асветнаму клубу "Спадчына", які арганізаваў і ўзначальвае навуковец Анатоль Белы. Да гэтай даты прымеркаваны выхад грамадска-асветніцкага альманаха "Спадчына" "Спадчыне", што пабачыў свет у Беларускім выдавецкім таварыстве "Хата". А каб кніжка з'явілася, парупіліся яе фундатары — Экзархат Беларускай праваслаўнай царквы, народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў, фірма "Тэст" (прэзідэнт Аляксандр Нехарошаў), наш суайчыннік з Н'ю-Йорка Кастусь Мярляк.**

**Адкрываецца альманах вершам-вітаннем народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна "Слыннаму клубу "Спадчына" на добрыя ўгодкі". Рыгор Іванавіч, як бачна з верша, да паняцця "спадчына" ставіцца ў самым шырокім разуменні гэтага слова:**

Спадчына —
Гэта не штосьці такое
Смачнае,
Гэта тое святое,
Якое па часе страчана,
Што вернута быць павінна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Спадчына — З-пад чаўна развагі
Хваля згадкаў,
Што заплывае ў абсягі сагі,
Якую чытацьме нашчадак,
Каб працяг
Адчуваў пачатак.

**У *першым раздзеле* "Клубу "Спадчына" — 10 гадоў" выступаюць М. Ермаловіч ("У авангардзе нацыянальнага адраджэння"), А. Грыцкевіч ("Дзесяць гадоў праляцела..."), С. Белая ("Слова пра "Спадчыну"), І. Курыцын ("Як не закрылі "Спадчыну"). Другі раздзел "Эсэ з нагоды" — А. Белы ("Прымалі закон аб мовах..."), М. Лавіцкі ("Кроўнае"), А. Багдановіч ("Мае карані").**

**Назва раздзела "Радком прозы, верша" сама гаворыць за сябе. В. Санько ("Згарэў у Слуцку суд народны") звяртаецца да 1967 года. У аснову твора пакладзены сапраўдныя падзеі, а прозвішчы персанажаў зменены. А. Саскавец выступае з аднаактовай п'есай "Адвечны парог". Тут жа падборка вершаў Р. Барадуліна, Я. Гучка, П. Марціновіча, І. Куніцына, А. Нядзведскай, Г. Вайтовіч, іншыя публікацыі.**

**У раздзеле "За шчытом іроніі і жарту" — пародыі У. Новіка і яго ж іранізмы, гумар А. Аніські "З перапіскі "чытач — газета".**

**Выступаюць І. Курыцын ("У пярэдадзень першай сусветнай...") і Г. Ланеўскі ("Беларусь — шаноўная, святая, вольная, чыстая...")**

**Завяршаюць альманах раздзелы "Храналогія "Спадчыны" і "Малітвы выгнаннікаў" (рамансы і песні Галіны Смоляк на вершы паэтаў беларускага замежжа).**

## ЧАРГОВЫ НУМАР "БЕЛАРУСА"

**Гэтым разам — пакуль вераснёўскі. Як вядома, у пачатку верасня ў Таронта (Канада) прайшла XXI сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Значная частка матэрыялаў звязана з гэтым важным мерапрыемствам.**

**Я. Жучка ("З песняй па свеце") расказвае пра выступленне ансамбля "Красавік" Беларускага універсітэта культуры ў Бельгіі. У матэрыяле, падпісаным крыптанімам "М. К.", узнаўляюцца асобныя моманты знаходжання беларускіх мастакоў у Францыі і іх стасункаў з тамашнімі калегамі. А. Кляшчук ("Песня душы земляка", яго ж фота) распавядае, як у Вілейскім краязнаўчым музеі праходзіла выстава здымкаў грамадскага і царкоўнага дзеяча беларускай эміграцыі ў ЗША Аляксандра Сільвановіча.**

*Публікуецца шэраг іншых матэрыялаў з жыцця беларусаў замежжа.*

Віншуем!

# Івану ЧЫГРЫНАВУ — 60



***21 снежня народнаму пісьменніку Беларусі Івану Чыгрынаву спаўняецца 60 гадоў.***

***Лімаўцы (як, спадзяёмся, і чытачы нашага штотыднёвіка) шчыра віншуюць Івана Гаўрылавіча з юбілеем і ад усяго сэрца зычаць яму моцнага здароўя і высокага творчага плёну!***

# З ЛЮБОЎЮ ДА СВАЁЙ ЗЯМЛІ

Адзін за другім адзначаюць шасцідзесяцігадовы юбілей прадстаўнікі пісьменніцкага пакалення, якое называюць хто філалагічным, хто сярэднім, хто "дзецьмі вайны". Так, яны — У. Караткевіч, М. Стральцоў, А. Грачанікаў, Р. Барадулін, Н. Гілевіч, В. Адамчык, І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў... — сапраўды ў свой час за вельмі рэдкім выключэннем атрымалі філалагічную адукацыю і занялі прамежкавае, сярэдняе, становішча паміж пакаленнем пісьменнікаў-франтавікоў і *маладымі, пасляваенных гадоў* нараджэння. У іх над самай светлай і радаснай парой жыцця, дзяцінствам, завісла зласнай хмарай вайна. Таму так шырока прадстаўлена тэма мінулай вайны ў творчасці гэтага пакалення.

Творчасць Івана Чыгрынава не з'яўляецца выключэннем. У інтэрв'ю канца 70-ых гадоў пісьменнік вобразна сказаў пра свае стасункі з гадамі фашысцкай навалы — "я быццам увесь час стаю пад ваенным дажджом" ("ЛіМ", 1979, 29 чэрвеня). Тады, аднак, ён выказаў упэўненасць, што не будзе вечна пад тым дажджом, што напіша раман і пра сучаснасць. Толькі ж і чацвёртая кніга "Вяртанне да віны" (1994) наўрад ці стане апошняй у ягоным серыяле раманаў пра жыццё беларускай вёскі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

А ўваходзіў у літаратуру І. Чыгрынаў апавяданнямі "Праз гады" (1961), "Апавяданне без канца" (1962), "Маці" і "Бульба" (1963), у якіх гучала ваенная тэма. Праўда, у 50-ыя гады ў друку з'явілася невялікая дакументальная аповесць пра нарвежскага даследчыка Поўначы Аўгуста Андра, *пазней* пазначаная аўтарам як "гісторыка-геаграфічная кампіляцыя" ("Тайна адной экспедыцыі"), убачылі свет так званыя мясцовыя былі — допісы пра мінулае і сучаснае жыццё землякоў пісьменніка. Аднак заявіў пра сябе І. Чыгрынаў усё ж апавяданнямі, у якіх імкнуўся паказаць неадназначныя жыццёвыя сітуацыі, няпростыя чалавечыя характары.

Раннія творы І. Чыгрынава нараджаліся з асабіста *перажытага, бачанага, пачутага.* Напрыклад, у апавяданні "Бульба" знайшлі ўвасабленне ўражанні ваеннага дзяцінства. Колькі тут канкрэтных, непрыдуманых дэталей, якія адклаліся ў памяці будучага пісьменніка, каб праз дзесяцігоддзі ажыць у мастацкім творы. Відаць, адтуль, з перажытага і пабачанага ў дзяцінстве, і адчуванне трагізму, што пранізвае ўвесь твор, у аснове сюжэта якога — памятна-радасная падзея. Так, халодны і хмарны восеньскі дзень 1943 года прынёс вызваленне жыхарам вёскі. З ім канчаліся жахі акупацыі. Але да заканчэння вайны, да пераможнага салюту ў Берліне ляжалі яшчэ тысячы кіламетраў, якія павінны былі з баямі прайсці нашы салдаты. Аўтар паведамляе пра ўпартыя баі на Бесядзі. Унікаючы паказу батальных сцэн, малады празаік тым не менш здолеў перадаць жорсткасць і зацятасць баёў, сказаць пра вялікія страты, якімі плаціла наша войска за кожны свой крок на захад па роднай зямлі. Дасягае гэтага І. Чыгрынаў з дапамогай эмацыянальна-ўражлівых дэталей і вобразаў, што захаваліся ў памяці: "На цёмна-зялёнай траве шырокага заліўнога лугу, што быў паміж лесам і Бесяддзю, з кожнай новай атакай большала трупаў з пасінелымі тварамі... Па-ранейшаму паўз школу рухаліся к Бесядзі войскі. А адтуль, пачынаючы з самае раніцы, везлі на машынах раненых. Вясковыя бабы падыходзілі паглядзець на іх і пасля плакалі".

Думаецца, зусім невыпадкова ў гэтым раннім апавяданні згадваецца пачатак вайны. Старшаму лейтэнанту, якому пашанцавала ў жахлівыя першыя месяцы нямецкага наступлення застацца жывым і вырвацца з акружэння, здаецца, што "раны ад сорак першага ныюць па начах мацней, чым тыя, што пасля былі". Герой іншага апавядання "Праз гады" гаворыць пра партызан гэтага перыяду вайны, пра асаблівую цяжкасць іх становішча. Як можна пераканацца, з першых крокаў у літаратуры ўвагу І. Чыгрынава прыцягваў пачатак Вялікай Айчыннай вайны ("Праз гады", "Самы шчаслівы чалавек", "Ішоў на вайну чалавек" і інш.), да чаго ён будзе вяртацца на працягу дзесяцігоддзяў, працуючы над раманамі "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужынцы", над тэле- і кінасцэнарыямі ("Руіны страляюць...", "Плач перапёлкі"), над п'есамі. Такую ўвагу, думаецца, можна растлумачыць як асабістай далучанасцю да падзей таго часу, так і непрыняццем становішча ў літаратуры, калі замоўчвалася трагічная праўда сорак першага.

Вядома, к моманту з'яўлення рамана "Плач перапёлкі" (1970) у беларускай літаратуры ўжо прагучала праўдзівае слова пра

# СТАЛАСЦЬ

Як хутка ляцяць гады! Здаецца, яшчэ нядаўна Івана Чыгрынава залічвалі ў кагорту маладых пісьменнікаў. Але ж гэта было ў пачатку 60-х гадоў. Многія, у тым ліку і аўтар гэтага артыкула, яшчэ да першага зборніка апавяданняў "Птушкі ляцяць на волю" (1965) адзначалі, што з'явіўся малады, таленавіты празаік. А сёння Іван Гаўрылавіч — вядомы не толькі ў рэспубліцы, а і далёка за яе межамі пісьменнік. Нядаўна яму прысвоена званне народнага.

Часам гумарысты, а, можа, і не гумарысты гавораць, што Касцюковічы знаходзяцца на сярэдзіне паміж Мінскам і Масквой. Гавораць, што ў маладосці Іван Чыгрынаў, прайшоўшы пешшу з Мінска да сваёй бацькаўшчыны, даказваў гэта. Ну, а калі сур'ёзна, то ўсё, што зрабіў пісьменнік, звязана з тым паўднёва-ўсходнім краем, з жыццём яго землякоў, з якімі ён часта сустракаўся і сустракаецца, з вёскай Вялікі Бор, дзе нарадзіўся, з Саматэвічамі, дзе вучыўся, з любай рэчкай Бесядзь і яе прытокамі. Магчыма, гэтым вытлумачваецца і трывалая сувязь, апора на традыцыі дзвюх літаратур, культур у сваёй творчасці.

Іван Чыгрынаў прыйшоў у літаратуру ў канцы 50-х гадоў, калі пачалі з'яўляцца тэндэнцыі, якія сведчылі аб пачатку *абнаўлення літаратуры*, аб магчымасці новага этапу ў яе развіцці. Адыход прозы ад звычайнай ілюстрацыйнасці, пазбаўленне яе ад схематызму, бесканфліктнасці і лакіроўкі, набліжэнне да сапраўднага жыцця былі нялёгкімі. Многія пісьменнікі і крытыкі, выступаючы супраць дробязнага, прыземленага ў літаратуры, наогул адмаўлялі сацыяльнае і эстэтычнае значэнне характэрнага жыццёвага факта, які можа быць трывала звязаны з іншымі фактамі, з'явамі, выяўляць агульны жыццёвы працэс. Вяліся зацятыя спрэчкі вакол "праўды жыцця" і "мастацкай праўды", вакол "праўды факта" і "вялікай праўды часу, эпохі".

Ацэньваючы з вышыні сённяшняга дня тагачасную літаратурную сітуацыю, прыходзіцца канстатаваць і падкрэсліваць, што пэўныя мастацкія здабыткі наглядаліся ў тых празаікаў, творы якіх грунтаваліся на жыццёвых фактах.

Маладыя пісьменнікі імкнуліся ўжо не проста паказаць добрага ці дрэннага чалавека, узвысіць ці асудзіць яго, а зазірнуць у душу, зразумець яго: першыя зборнікі І. Пташнікава "Зерне падае не на камень" (1959), Б. Сачанкі "Дарога ішла праз лес" (1960), І. Чыгрынава "Птушкі ляцяць на волю" (1965), М. Стральцова "Блакітны вецер" (1962) і інш.

Шмат у чым іншай станавілася і літаратура аб Вялікай Айчыннай вайне. Узмацняўся драматызм, паглыбляўся псіхалагізм. Праўда станавілася па сутнасці галоўным героем. Часцей да падзей вайны звярталіся пісьменнікі, якія ўдзельнічалі ў ёй, што выяўлялася ў аўтабіяграфізме, у шчырай споведзі і пропаведзі.

Маладыя на той час пісьменнікі (І. Чыгрынаў, І. Пташнікаў, Б. Сачанка і інш.), звяртаючыся да тэмы вайны, абапіраліся ўжо не столькі на свой уласны жыццёвы вопыт, хоць дзіцячая памяць учэпістая і многае захавала з тых драматычных дзён. Аднак галоўнае было тое, што з пакалення ў пакаленне перадавалася народная памяць аб вайне. Гэтыя пісьменнікі па сутнасці замацавалі ў літаратуры памяць сваіх родных вёсак. У аснове іх твораў таксама жыццёвы вопыт — родных, суседзяў, аднавяскоўцаў, землякоў, трансфармаваны праз пісьменніцкае ўспрыманне.

Народ і вайна... Як сустрэў яе наш чалавек, як уступіў у барацьбу супраць захопнікаў — такія праблемы хвалявалі многіх пісьменнікаў. Яны ў аснове арыгінальнай раманнай канцэпцыі І. Чыгрынава ("Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужыя"), які задумаў стварыць серыю раманаў аб вайне, паказаць вайну галоўным чынам праз лёс жыхароў адной беларускай вёскі Верамейкі.

Для І. Чыгрынава было вельмі важным паказаць, як у адных і тых жа абставінах пачатку вайны па-рознаму думаюць і паводзяць сябе людзі. І праз мноства асабістых адносін выявіць агульныя адносіны сялянства, народа да фашысцкай навалы.

У пераломныя моманты жыцця народ у цэлым і кожны чалавек у асобку задумваецца: што здарылася, як жылі, як будзем жыць? Хто вінаваты? У чым сэнс жыцця? Праходзіць час падрахункаў, час пераацэнкі каштоўнасцей, час абвінавачванняў і пакаяння. Гэтыя жыццёвыя праблемы і сталі галоўнымі для сучаснай літаратуры, асабліва ў творах І. Чыгрынава.

Падобныя пытанні непазбежна ўстаюць у творах пра мінулае, пра вайну. Ці можна было прадухіліць яе, ці можна было здабыць перамогу з меншымі ахвярамі? Як гвалтоўная калектывізацыя і рэпрэсіўныя 30-я гады паўплывалі на ход падзей? Чаму ўсё гэта адбывалася ў нас, у краіне, дзе аб'явілі аб будаўніцтве самага справядлівага, шчаслівага камуністычнага грамадства?

Вайна паказала не толькі хто ёсць хто. Яна многіх прымусіла паглядзець інакш на свет і чалавечае быццё, па-іншаму асэнсаваць і ацаніць сваё ранейшае жыццё, *нярэдка больш строга і крытычна*. Раман І. Чыгрынава "Вяртанне да віны", што працягвае цыкл твораў аб вайне, распачаты "Плачам перапёлкі", нават сваім загалоўкам завастрае гэту праблему.

Раман не толькі, а можа, і не столькі пра разгортванне ўсенароднага партызанскага змагання, пра гераізм, колькі пра драматызм жыцця людзей на акупіраванай тэрыторыі, пра барацьбу, якая часам нават нагадвала грамадзянскую вайну.

Вельмі моцна гучыць у рамане актуальная і сёння ідэя нацыянальнага адзінства, ідэя захавання роднай зямлі, народа, які не павінен ісці на канфрантацыю і самазнішчэнне. Аб гэтым пастаянна думае і гаворыць умудроны жыццём селянін Кузьма Прыбыткоў, разважае Масей Зазыба.

І ўсё ж, галоўнае ў апошнім рамане — не толькі і не столькі ў паказе трагізму вайны, колькі ў раскрыцці тых абставін, якія ўскладнялі гэты трагізм, той сістэмы, якая прыводзіла рэпрэсіўныя акцыі. Сёння зварот да гэтых праблем стаў дамінуючым ва ўсёй літаратуры.

Карацей, "прыходзіла новае ўсведамленне: *вайна сапраўды "многа што перайначыла"*. І гэта І. Чыгрынаў стараўся паказаць усебакова. Яму шмат што ўдалося зрабіць.

Так, Іван Гаўрылавіч заслужыў званне народнага пісьменніка. Ім напісаны зборнікі апавяданняў і аповесцяў ("Птушкі ляцяць на волю", "Самы шчаслівы чалавек"), чатыры рамана, некалькі п'ес, кнігі крытыкі і публіцыстыкі.

Наогул, зроблена многа, але мы, прыхільнікі таленту Івана Гаўрылавіча, спадзяёмся, што яшчэ будзем чытаць яго новыя творы. 60 год — час сталасці і творчых магчымасцей.

Поспехаў Вам, Іван Гаўрылавіч.

**Павел ДЗЮБАЙЛА**

---

пачатковы перыяд змагання з фашызмам. Аднак тычылася яно франтавых падзей (творы В. Быкава), арганізацыі супраціўлення на акупіраванай тэрыторыі, пошукаў свайго месца ў барацьбе маладога пакалення (раманы І. Навуменкі, А. Асіпенкі, А. Адамовіча). І. Чыгрынаў звярнуўся да дэталёвага аналізу жыцця так званага мірнага насельніцтва, што апынулася пад акупацыяй. Менавіта жыццё, бо народ у вайну не толькі змагаўся, а і сеяў хлеб, кахаў, гадаваў дзяцей, спадзяваўся на лепшае. Адным словам — жыў.

У раманах пісьменнік засяроджвае ўвагу на ўстойлівасці сялянскага (народнага) быцця, на супрацьстаянні яго парушанаму вайной свету. І ў трагічным сорак першым селяніна, вяскоўца кліча да сябе зямля: прыбраць вырашчаны ўраджай, узараць глебу пад новы. Потым героі І. Чыгрынава выйдуць на касавіцу (раман "Вяртанне да віны"), несучы ў душы вялікую трывогу ў сувязі з новым летнім наступленнем немцаў. Але, бадай, самай яркай, па-мастацку змястоўнай і арыгінальнай з'яўляецца сцэна наведвання парадзіхі ("Плач перапёлкі"). Нараджэнне маленькага чалавека — гэта выклік вайне, што нясе смерць і знішчэнне, гэта сімвал непераможнасці жыцця.

Адна з асноўных праблем раманаў І. Чыгрынава — паказ партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Здавалася б, беларускай і колішняй савецкай літаратурай пра гэта напісана так шмат, што адкрыць новае амаль немагчыма. Аднак І. Чыгрынаў здолеў сказаць штосьці сваё і нават, думаецца, двойчы. У першых кнігах рамана аўтар даносіць складанасць нараджэння арганізаванай барацьбы супраць акупацыйнага рэжыму, паказвае, што ідэя супраціўлення выспявала ў свядомасці народа, а не была навязана зверху.

Праз увесь раман "Плач перапёлкі" доўжыцца прынцыповая спрэчка паміж Дзяніcам Зазыбам і Радзівонам Чубарам, што рабіць насельніцтву акупіраваных тэрыторый. Чубар і думкі не дапускае, што можна жыць пад ворагам і змагацца з ім. Ён лічыць адзінаправільным усё знішчыць і падацца ўслед за Чырвонай Арміяй. Зусім іншае разуменне сітуацый, супрацьлеглае Чубараву (і тым, чыімі ўказаннямі ён кіраваўся), выявіў Зазыба. Ён лічыць, што адступае армія, а народ застаецца, яму няма куды адступаць, няма як пакідаць родную зямлю. Як аргумент у спрэчцы Зазыба прыводзіць народную прымаўку, пачутую яшчэ ў гады першай сусветнай вайны, "хто з роднай хаты ўцякае, той ворага не перамагае".

Трэба аддаць належнае таленту раманіста. Паказваючы свайго героя мудрым, удумлівым чалавекам, які не губляецца ў вельмі складаных абставінах, можа многае прадбачыць, аўтар разам з тым не ўздымае яго над часам. Адказаў на ўсё ў супярэчлівых ваенных сітуацыях у Зазыбы няма, пошукі іх даюцца вельмі няпроста. Ён можа ў чымсьці памыляцца, вагацца, можа быць не толькі разумна-разважлівым, але і аднабаковапрамалінейным, нават зацята-жорсткім (напрыклад, у адносінах да сына, вязня ГУЛАГа), чым і выклікае цікавасць як мастацкі характар. Тое ж самае можна сказаць пра многіх іншых герояў раманаў.

У апошняй кнізе твора выразна выявіўся новы, сучасны падыход да партызанскага руху. Пісьменнік гаворыць пра яго неаднароднасць, пра жорсткасць, што пачынае выяўляцца ў адносінах да сваіх людзей. Здаецца, народжанае ў народных масах супраціўленне, калі набыло рэальныя абрысы, пачало ў пэўнай ступені супрацьстаяць гэтым масам, распальваць варожасць, дзеячы на сваіх і чужых.

Такі паварот у паказе партызанскага руху не выглядае нечаканым, тым больш кан'юнктурным. Здаецца, І. Чыгрынаў за тры дзесяцігоддзі літаратурнай дзейнасці зарэкамендаваў сябе сур'ёзным, удумлівым аўтарам, які не баіцца звяртацца да забароненых тэм. Прыгадаем хоць бы вобраз Масея Зазыбы, прататыпам якога з'яўляецца пісьменнік-эмігрант Масей Сяднёў. У памяці народнай, з якой чэрпае, на якую шырока абапіраецца пры напісанні раманаў празаік, засталіся **розныя** партызаны. Літаратура ж па сутнасці да нядаўняга часу паказвала толькі адну частку партызанскай вайны — гераічна-драматычную, сумленную.

*Здаецца, у новым рамане І. Чыгрынавым заўлена яшчэ адна праблема*, якая знойдзе сваё мастацкае вырашэнне ў наступных частках серыяла (некалі пісьменнік гаварыў пра твор з сямі раманаў, спадзяёмся, што так яно і будзе), праблема распачатай грамадзянскай вайны. Менавіта яе прывід паўстае перад старым Кузьмой Прыбытковым, калі ён бачыць, як палохаюць адзін другога зброяй аднавяскоўцы і суседзі.

Для твораў І. Чыгрынава, а выступае ён у розных жанрах, характэрна, так бы мовіць, строгая канкрэтызаванасць месца дзеяння. На старонках апавяданняў, раманаў, у спектаклях і фільмах, знятых па яго сцэнарыях, паўстае малая радзіма пісьменніка, паўднёва-ўсходняя частка Магілёўшчыны. Неадноймы згадваецца апетая А. Куляшовым, знакамітым земляком І. Чыгрынава, Бесядзь, называюцца вёскі таго рэгіёна, дарогі, лясы, раскрываюцца асаблівасці быту, гаворкі, паводзін і характару землякоў. Пасля аварыі на ЧАЭС мастакоўскае вяртанне да вытокаў, у нядаўняе ці далёкае мінулае краю, набывае асаблівы сэнс. Становіцца вяртаннем на чыстую, не атручаную радыяцыяй зямлю. Вёска Вялікі Бор, адкуль пачалася шырокая жыццёвая дарога пісьменніка, як і сотні іншых населеных пунктаў пакутнай Магілёўшчыны, засыпана чарнобыльскім попелам.

Адчуванне незваротнай страчанасці чысціні прыроднага свету, думаецца, не ў малой ступені абумовіла высокую эмацыянальную напружанасць сцэны гібелі Радзівона Чубара (раман "Вяртанне да віны" пісаўся ўжо ў паслячарнобыльскі час). Сімптаматычна, што герой гіне не як ідэйны партыец і прадстаўнік савецкай улады (такім мы ведаем Чубара па першых раманах), а як патрыёт, як абаронца сваёй роднай зямлі. Яму ўрэшце адкрыліся іншыя, больш вартасныя каштоўнасці жыцця.

Патрыётам свайго краю, чалавекам, улюбёным у яго сучаснасць і мінулае, выступае ў літаратуры І. Чыгрынаў. Няхай жа доўжыцца гэта любоў і нараджаюцца новыя высокамастацкія творы.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА**

---

# ВЯЛІКАЕ НА АДЛЕГЛАСЦІ

Першае, што я з твораў Івана Чыгрынава прачытаў, была кніга артыкулаў "Новае ў жыцці, новае ў літаратуры". Я якраз вярнуўся з арміі, дзе быў рэдактарам "Боевого листка", зампаліт хваліў мае, на цяперашні розум жахлівыя, "заметкі" пра тое, як адстраляліся на палігоне, як "рядовой Кучук, будучи в наряде по кухне, украл часы у своего товарища и, что самое интересное, тоже украинца по национальности сержанта Полянского"; зампаліт пераконваў, што быць мне журналістам. Як чалавек дысцыплінаваны, я паслухаўся. Вярнуўшыся з войска, накупіў кніг па тэорыі літаратуры і стаў набіраць розуму. І трэба ж, у першай кнізе, згаданым зборніку І. Чыгрынава, наляцеў акурат на тое, *што трэба — "10 заповедей Куприна для пачынаючых белетрыстаў"*. Бясцэнныя парады! — пішы сабе, звярайся з правіламі, і ўсё атрымаецца. Паспрабаваўшы, аднак, я хутка пераканаўся, што гэта (напісаць апавяданне) справа зусім нялёгкая, нават для чалавека, узброенага найлепшай тэорыяй. Натуральна, пасля разумных літаратуразнаўчых артыкулаў І. Чыгрынава захацелася пачытаць і "практыку" гэтага аўтара.

Так мне адкрыўся яшчэ адзін выдатны беларускі празаік. Пазней, у Мінску, пашчасціла і пазнаёміцца з ім, пагаварыць, і я пераканаўся, што чалавек гэты адлавдае сваёй харошай бяскрыўднай мянушцы, якая ходзіць пра яго ў літаратурным асяроддзі, — "Святлейшы".

Чытаючы нядаўнія падборкі ў "ЛіМе" апавяданняў-успамінаў І. Чыгрынава, а паралельна перачытваючы "На Быстранцы" і "Апошнюю сустрэчу" Я. Брыля, падумалася: *як усё ж часта мы, маладзейшыя, не цэнім сваіх жывых класікаў* — таго ж Я. Брыля, І. Чыгрынава, І. Пташнікава, іншых, — шкадуем для іх цёплага слова, хоць аб'ектыўна іхняя проза такога ўзроўню, што дай Бог калі нам, маладзейшым, так пісаць... З тых падборак І. Чыгрынава ўразіла апавяданне-нарыс "Коні". Тры партызаны выбіраліся з блакады, коні замянілі ім. Партызаны прывязалі іх да бяроз у гаі, а самі пераплылі раку і ацалелі. А вось забраць коней у блізкім часе не ўдалося. "І калі нарэшце Антон (галоўны герой. — **А. Ф.**) вярнуўся ў бярозавы гай, коні былі нежывыя — выскублі не толькі ўсю траву пад нагамі, але і абгрызлі кару на дрэвах"...

Па-мойму, нават гэты ўрывачак дастаткова сведчыць пра майстэрства Чыгрынава-пісьменніка. А ўвогуле творчы набытак яго наўздзіў багаты і не пакідае сумнення, што ён, І. Г. Чыгрынаў, па праву носіць ганаровае, высокае званне Народнага: раманы, п'есы, апавяданні, сцэнарыі шматсерыйных кінафільмаў, акрамя таго ўвесьчасная грамадска-палітычная праца, рэдагаванне папулярнага гістарычнага часопіса "Спадчына", кіраванне Беларускім фондам культуры...

У кнізе беларускага эмігранта М. Сяднёва "Масеева кніга" ёсць эсэ "Пра апавяданні Івана Чыгрынава". Хачу працытаваць яго амаль цалкам, балазе невялікае: "... У жанры апавяданняў я гатовы паставіць Івана Чыгрынава на першае месца, залічыць яго да ліку нашых класікаў. Апрача артыстызму, я вычуваю ў іх наша, нацыянальнае — філасофію, псіхіку, быт, норавы нашага народа. Да гэтага імкнуўся Кузьма Чорны, але шмат сваіх твораў ён папсаваў, намагаючыся задаволіць партыйныя вымогі ў літаратуры. У малым жанры, у жанры апавядання, Іван Чыгрынаў незраўнаны. У гэтым жанры, думаецца, ён больш дасканалы, чым у жанры эпапеі".

Што ж, вялікае, як кажуць, бачыцца на адлегласці...

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# ДОМ ПАД ЛЕСАМ



АПАВЯДАННЕ

трапіць на благое вока, не ўзверадзіць зайздроснага суседа. Вада-верхаводка затапляла падполак. Вёска штовесну цярпліва цягала наверх бульбу, вурыла ваду, не шукала вінавайцаў, лёгка тлумачыла няўдачу: маўляў, снегу было многа, і вясна надта руплівая. А цыбуля зімовая не ўзышла, бо трава заціснула. А пісклянят мала ў лета пусціла каторая баба, бо крумкач пахапаў, вунь сядзіць на елцы, крумкае, бы арэхі-лушчакі трушчыць у дзюбе, забаўляючыся. Слабка бараніліся ад бяды, быццам няволле было бараніцца. І ты цяпер век вяслуйся ў сырой хаце седзячы, патрапляючы ім... Трэба было падняць падмурак. Тут людзі часцей саступалі дарогу і вадзе, і птушцы, і зверу. Лясны ручай цячэ вясной у вёску, нячутны, зеленькаваты, таямнічы, як лясныя думкі. Пазней каля самага парога ўзыдуць яны дзікай кветкай лабазніку ці ветраніцы, у сад заляціць сойка, дрозд, салавей. Лес загаворыць да чалавека на сваёй мове. І ты ўжо, як пабраўшыся, будзеш з ім увесь час хадзіць ўпоплечкі, не адчуваючы адзіноты.

Але чаму так лёгка да плачу? Быццам ейны анёл-ахоўнік за плячыма ўвесь час заліты слязьмі. Ён, пэўна, яе і зводзіць...

Цётка Анця абатрэ вехцем саломы запэцканыя цэўкі, боты, выйшаўшы з хлява, папраўіць хустку і па нешта ж ідзе ў двор. "Можа, замок купіла б?" — пытаецца. Цёмныя ейныя вочы пасвятлелі, сочыць, пільнуе, каб не здагадаліся, што ёй трэба збыць няўдалую рэч. Запамятавала: яшчэ летась жалілася — купіла во, ключ ледзь паварочваецца. Моўчкі ўпрошвае і злуецца, што тая марудзіць, маўляў, што табе, багатырцы, варта купіць, а мне ўбытак. Вунь якую будоўлю распачала, плот новы паставіла, веранду, печ новая — свежы дым у хаце. Цётка Анця не надта і хавалася, узяўшы некалькі цаглін, падлажыла на рацэ пад кладку, бо не пільнуецца новая гаспадыня, нядорага, значыцца, ён ёй абходзіцца, не ўгоніш яе гэтым у кошт... Нельга не купіць, нельга даць зразумець, што заспеў, як малога ашуканца. Толькі гэты візіт крыху насцярожыў: а ці не залішне яна тут, у вёсцы, добрыцца з людзьмі, можа, варта было б хоць дзеля прыліку таргавацца з імі. Але ўдзячна давяраючы жыццю, Юльча выбачала, забываючыся на хітрыкі старой жанчыны. Можа, толькі яшчэ больш шчыра адорвала яе гасцінцамі, вяртаючыся з горада, быццам хацела яе закалыхаць, як малое дзіця; прылашчыць, не ўзверадзіць ейную больку. Цётка Анця мела тыя сілы, што мае глыбокае карэнне лясных нагаворных гаркавых зёлак, якіх і назву ніхто яшчэ не ведае.

Рэдка тая заходзілася ў хату, хаця ўвесь час на вачах, у вакне ўвесь ейны панадворак. "А кыш вон! А кыш вон, га?" — ганяе кур з град, пытаецца, чаму не слухаюцца, карціць слова сказаць, а ў хаце няма да каго і загаварыць — дзеці, унукі ў горадзе. Толькі на ўсю моц уключанае радыё. Штогод праз усю бульбу града квяцістага маку, як дзяркаты каснік у сівых валасах. Во яна толькі яшчэ робіць пад той мак граду. Качае граблямі зямлю, пляскае, як бы гэта цеста на стале. Узбівала, мяла грузалкі, дабаўляючы нюшок таго, нюшок гэтага, як толькі не каштуючы на смак. Не спяшаючыся, неяк па-святочнаму. Барозны няроўныя, бакі абсыпаюцца, — на строй не глядзіць. І з языка не спускае, што цяжка, і сок бярозавы вялы, смагу не праганяе, што дзеці не падскочылі, не кожны раз лучаць у пагоду пад'ехаць, памагчы — і раптам загадвае разагнаць плугам лужок каля ракі, дабавіць зямлі, і жаліцца, і стагнаць, як у любосці, але не разлучацца.

Не тое што яна, Юльча. Садзілі садок, прыкра ўспомніць, наняты дзядзька з горада спяшаўся. "Дзе сонца ўзыходзіць? — пытаецца. — Ага, ага!" Круцьверць галавой, паторкаў дрэўцы — і ў машыну. Чужы сад, ён і ёй як чужы — не запамятавала назвы яблынь. Цётка Анця звычайна ў сініх штанах, запэцкае, выцягнуцца каленькі спераду, тады яна, каб крыху харашэй, нацягне іх задам наперад. Ніколі, каб заспяшалася, калі пойдзе дождж. Нічым не захінецца, быццам не чуе, і невядома, ці схавалася б пад страху, каб ночы не было на свеце. А тут прыязджае Ларыса, афіцэрава жонка, яны з мужам будуюць сабе напроці цёткі Анці дачу.

— Вой, як Ларыса была прыбраўшыся! Як яе па бацьку? Сукенка ў кветкі, а строю: тут зашчапы на грудзях, тут фальбонка, і спадніца такая шырокая, можа, і сонца-клёш! Ну якраз па мне яна змодзілася! — і рукамі, пакручанымі ад работы пальцамі, перабірае на сабе, як труднуе ад жадання ўскласці такую сукенку, надта ўспадабаўшы, і ў будзен дзень! Ярка, светла ёй уваччу, глядзіць прыжмурыўшыся з далёкага пагорка сваёй маладосці. Як Ларысу па бацьку? — во ўшанавала! Юльча міжволі сумелася: старасць, гразкая работа не закітавала старой жанчыне вочы, а ты тут ходзіш абы ў чым, па-простаму, цягаючы на сабе і дошкі, і цэглу, і зямлю рыдлёўкай урабляючы — толькі каб не выдзяляцца! Што ўжо тычыцца афіцэрыхі, то, на першы погляд, і не заўважыш, прыгожая яна ці не. Яе быццам трэба некаторы час рэстаўраваць у сваёй памяці, успамінаць, як згублены, зашораны дзе-небудзь на жыццёвым гарышчы дарагі партрэт. Быццам ціхая і непрыкметная, яна магла б быць і белашвачкай, марудная, погляд даўгі, як за пяльцамі ці за мелкім шыццём дзе-небудзь у вакне дзевятнаццатага стагоддзя. Каб не густыя рыжыя, пафарбаваныя хной валасы, што цяжкім царскім турбаном велічна ўздымалі галаву. Яркі макіяж надзіва не вульгарны. Жывапісалася нешта нетутэйшае, неспадзяванае, знаёмае толькі па паданнях гарачых паўднёвых краін. Ну праўдзівая Клеапатра! Не, Клеапатру нельга браць да работы. Аднаго разу толькі ўдалося ёй, бачыла, пераносіць з мужам шыфер, пацяклі густыя малёўкі, на скронях ад напружання выступілі вены, не гэты шэдэўр жывапісу, думалася амаль здзекліва, патрабуе шаноўнага абыходжання, пэўнай тэмпературы, як у музеі.

Атрымаў афіцэр пляц на чыста чырвонай гліне, а жадалася пасадзіць дзецям хоць агурок. Цётка Анця, калі папрасілі, вымеркавала ім граду ў сваім агародзе.

— А, можа, яны мне мяшок мукі дастануць! — і стук кулачком па лаве, на якой сядзела. — А, можа, прадсядацель — яны з ім добра — жыта выпіша... А, можа, так што якое маюць даць, — стук, стук, стук.

Зямлю шкадавала, а тут адважылася на пазыку, як у рулетку згуляць захацелася. Ужо яна тутака, маўляў, не прагадае, усё абдумала. Сам-насам абрадзіла. Але не засцераглася Клеапатра ад бабінага гневу. Тая, не хаваючыся, што брыдзіцца, пазначыла шклянку на малако, каб цётка Анця не пераблытала і ў сваю карэлую не наліла. І дзве тысячы пакінула наперад — не ў рукі, а праз унучку.

— Што яна мне, як на вочы ўскінула! Я торт куплю ў ейным горадзе — і ўсе грошы! Жарт! А я ўсё летца буду за іх у кабале душыцца на гэтае малако! — бліснула на Юльчу вачыма.

Юльча, праўда, разумела старую: ёй звыкла зарабляць па рубяльку, дакладаючы капейку да капейкі, і каб душа была на волі, не заходзячы ні ў які доўг.

У тую ноч нарваў-такі вецер навальніцу. Грымоты каціліся з аднаго канца неба ў другі. Выдавалася праз сон, што гэта цётка Анця мые падлогу перад вялікім гадавым святам. Ідзе не разгінаючыся па хаце, падол у зубах, перасоўвае з карэлай палавіны на чыстае, шоргае лавы, шафа паехала, ужо баба ў сенях, на ганку, ужо вурыць на панадворку, вось і калёсы піхнула на памост у хату, аглоблі ў бакі, забарабанілі па чыстых дошках ў розныя бакі, як кляшні ў рака. Назаўтра, сустрэўшыся, кінула праз плячо быццам незнарок, грымнула так блізка, шаравой маланкай аглушыла — і зямля ці адцягне:

— Аднясі каменне, што брала... Сын казаў — яму самому яны патрэбныя...

"Нядобра, калі зязюля кукуе пасля захаду сонца", — успомніліся ейныя ўчарашнія словы. Надта скора спраўдзілася... Юльча ўжо не чула, як за плячыма плакаў уголас анёл-ахоўнік. Аднесці каменне?! А хіба гэта пазыка?! Гэта як выгнанне. Пасля чаго чалавек павінен сабрацца і пайсці ад людзей. Так зганяе з абжытага месца пярун, калі паліць дом... Яшчэ і тыдня не прайшло, як цётка Анця сказала: бяры, ляжаць камяні, замінаюць, уросшы ў траву... Добра, што хоць яшчэ не заліла падмурак пад прыстройку... Цяпер Юльча хадзіла, быццам збілася з дарогі, згубіла час, пару. Увечары перад ноччу няўцямна падышла да ложка і стала складаць толькі што пасланую пасцелю. "А што гэта я раблю?" — спахапілася. Уначы брахаў глухі бабін сабака Букет, цяжкім безгалосым брэхам, нешта трывожыла яго па старой памяці, яго ўжо ў вёсцы, суверыўшыся, ніхто не падтрымліваў, адзін лес адзываўся, але сабака і яго не чуў — ён даўно ў адзіноце. Уставала на досвітку, ішла ў лес. Быццам і не пужалі свежыя разоры дзікоў, незнаёмыя галасы ранішніх птушак. А тут, ужо вяртаючыся, раптам нешта выдалася: азірнулася — на ўскрайку ад дарогі стаяла... здань. Малое дзяўчо, якое зарана пабудзілі, ногі нягнуткія, тырчком, гэткі спатыкач спрасонку. Ці то ў старым адзенні, ці то пакрыта карой. У мурзатай руцэ, пэўна, ад учарашняга заціснуты зялёныя арэхі. Пакуль паспелі вочы ўбачыць, страх ужо скочыў на плечы, сядзеў дзікім катком, пэўна, ён пільнаваў яе ў лесе ўвесь час. Здань пагражальна знерухомела, каб счакаць, калі, нарэшце, пакіне чалавек лес.

"Аднясі каменне..."

Вярнулася, у хаце ўжо былі ўсе ўстаўшы — якраз прыязджалі наведацца сяброўкі з горада, рыхтуюць сняданак, смяюцца, шуткуюць — колішнія вясковыя дзяўчаты. Юльча стаяла ў парозе ўся мокрая ад расы. Ніхто не звярнуў на гэта ўвагі, не сказаў, каб хутчэй пераапранулася ў сухое. Мы, думала пра сябе Юльча, інтэлігенты сельскія, народжаныя пад даждҗом, пад снегам, на зямлі. Сапраўднаму гараджаніну тут лягчэй прызвычаіцца, яму патрэбен пляц і больш нічога. Яму звыкла жыць, як на лесвічнай пляцоўцы, абасоблена, адчужана, абы было дзе купіць малако, гідліва пазначыўшы свой посуд, як Клеапатра. Бо ён не зведаў шчаслівых вырыгаў вясковай сямейнасці. Яна ж будзе няўцямна шукаць тут сваю пакінутую калісьці, згубленую радзіму, будзе жадаць вярнуцца ў вясковую сям'ю. Але ж ці прымуць... Душа лёгка ашукваецца, абы залацела пад страху хаты...

Неўзабаве пачаўся першы сенакос. Яшчэ адно ейнае лета зажата. Такая ўлюбёная пара, а цяпер... Цяпер яна паўсюдна шукала адказы на свае пытанні, бачыла ўсё перад сабой без замілавання, жорстка, і, можа, праўдзівей, увесь час адчуваючы, як муляе каромысел, шыю не павярнуць, на якім старыя жанчыны носяць ваду з ракі, бульбу-паранку, увесь дзень, бы замкнёнае ярмо на рабочых валах. Галавой уперад, крок павольны, шырокі, пагойдваюцца ў бакі ўсім целам — цяглавая хада. Здыме баба каромысел, посцілку танчэйшую сцягне з ложка, пусціць на горшае — насіць на сабе ўзаплечкі траву, ахрап'е свінням, сена. Во, казала неяк цётка Анця, косткі павыпіраліся на нагах, не можа знайсці абутку, у крыжы баліць, "палец на руцэ з начы не магу адхінуць, паглядзі, верхніх зубоў няма". Стаіць, лыжкай агурок выкалупвае, есць семя, бы салодкі кавун. А трэба спяшацца сена ўхапіць — пагода ж стаіць, чакаць не будзе, пакуль адыхнеш. Спёка. Кожная баба, калі толькі мае, ідзе сенаваць з мужыком. Той каторы не вытрымае, сцягне кашулю праз галаву, а яна ідзе побач прыбраўшыся, сукенка толькі што з шафы, колецца сенажатка, ступае, як на абцасах, нічым не парушыць адвечнага парадку, калі ўжо на людзях, хустку з галавы толькі скіне ажно ў паўдні — фэст! І старыя ў нечым дзяркатым здалёк, сагнуўшыся — спалавелым, заламаным макам у полі — фэст! Віхор падхопіць каслаўку сена і доўга трымае яе ў паветры, круціць над галовамі, бы хлапчук, скачучы на адной назе з граблямі. Паглядаюць на неба, каб хаця не захмарылася. Без аддухі грабуць, пластуюць. Рыкае ў паўдні ў вёсцы незагнаная ў хлеў карова. Ці сыдзецца ўжо цётка Анця з маладзейшымі. Паходка ейная ў пільніцу, як у смерча, ідзе пасярод дарогі, выпраставўшыся, у думках яна ўжо далёка, на сваёй дзялцы. Быццам ні грудзей ужо, ні бядра, адзежа адным строем, абы цела ў чыстае захінуць, але ж ніколі пры сваім музыку, калі быў жывы, і ў старасці не пераапранулася, саромеючыся, толькі калі станік папросіць зашпіліць. Неяк у лазні, мыючыся разам, Юльча сумелася, убачыўшы тут, у вёсцы пад лесам, збłочаную працай, састарэлую... Венеру — учыненае ненаўмысна блюзнерства. Той самы схіл плячэй, і пена марской хвалі яшчэ не сышла з кволых сцёгнаў... Вазы рыпяць, капытоў не чуваць, такая збітая дарога, адзін гарачы пыл. Сонца ўвесь дзень свяціла пільна, без аддухі, і пакідала поле апошнім, каціласяна захад нязвыкла цяжка, як не ў той бок, проста пад конскія капыты, блытаючыся спіцамі ў калёсах. Не, пэўна, яшчэ заставаўся стары дзед, кульгавы, былы паліцай, недзе з-за свету чалавек, казалі. Ніхто не падышоў да яго, не памог злажыць у капешкі, яго і цяпер баяліся, нават што добрае асцерагаліся зрабіць. І ён, пэўна, да смерці так і будзе сабе думаць: маўляў, мала я вас немцу ўдаваў, свалату калгасную. Сціналася сэрца: не яго шкада, а ягоную старасць. Душа вон — так гроб, торба з ежай на ровары ўвесь дзень вісела нечапаная. Ішоў дамоў, ровар побач, як апірышча. Спіна мокрая, а там, дзе крыху ачахла, высахла — соль рагазамі, буйная, бы жарства, на пустой, мёртвай зямлі.

І так дзень адодня. Выйшла ўвечары за вёску, яшчэ стаяў гарачы дух, пахла агарачкам першай падкапанай бульбы, спечанай тут, у сонечным попеле, пахла вячэрай. І пустое поле, і вёска здалёк падаліся незнаёмымі, і такі жаль забраў, як бывае, калі ты адлучышся ад людзей, а душа запатрабуе шчырасці. Тады ўжо ад сябе праўду не схаваеш, як на споведзі. "Збадзялася я па свеце, на чужыне..." — вымаўлялася не сваім голасам. Здаецца, паднялася б з гэтага чужога гарачага камення і паляцела б на сваё заросшае, як пакінуты магільнік, селішча. Ніколі ты не будзеш у чужой вёсцы за свайго, звякуеш злоснікам з-за свету ці непамыслай нявесткай. "Вы добрыя, бо багатыя..." — сказала неяк цётка Анця. Маўляў, лішку маеш, а жыць не ўмееш — раскідаешся, — блазната. "Аднясі каменне..." А хіба хто лепшым быў да яе?! Адзін толькі хворы на галаву Тонік, сустрэнецца: "Здрасце і толькі вам", — скажа. А нап'ецца, б'е нагамі па веснічках дачнікаў: "Спалю, усю свалату спалю!" — як жыватом крычыць. Каб хто запытаўся, як маешся, скуль, чыя ты ёсць? Вымкнешся сам у гаворцы іншы раз, не ўтрываеш, аж горача, так хочацца сваіх успомніць. Няма з кім, ніхто іх тут не ведае. Толькі ў касцёле, даўшы на памінанне, адным іменем: Волька... Антык... Уладзя, Лёня, Бронік, Марыля... Толькі з богам успомніш... Неяк незнарок пачула бабіну размову з суседкай: "Дрэнь гэтыя наезджыя, пра што з імі пагаворыш? Таварышы нам, з кім дзеці гадавалі, з кім на работу хадзілі..." Ка-

(Працяг на стар. 15)

# З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, "МАЛАДЗІК"!



**У адным з новых мікрараёнаў Віцебска — Поўдзень-7 — адкрыў дзверы першы ў рэспубліцы дзіцяча-юнацкі мастацкі цэнтр "Маладзік". У яго сценах размясціліся дзве студыі выяўленчага мастацтва, майстэрні мастацкага вобраза і ювелірная, а таксама выставачныя залы. Займаюцца тут дзеці з малазабяспечаных сем'яў, а таксама тыя, што жывуць у гэтым раёне. Навучанне ў цэнтры бясплатнае.**

**Свае работы тут змогуць выстаўляць навучэнцы гарадскіх школ з мастацкім ухілам, студэнты педагагічнага і тэхналагічнага інстытутаў і вучылішч абласнога цэнтра, а таксама выкладчыкі.**

**Першымі ў залах цэнтра дэманструюць сваю творчасць навучэнцы і выкладчыкі СШ N 25.**

*На здымках: гурткоўцы студыі выяўленчага мастацтва Андрэй ЛЫСУХА і Вова ІВАНОЎ са сваімі работамі.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

# ПРАДСТАВІЎ МАЛАДЫХ



**У мінскім Доме ветэранаў вядомы кінарэжысёр Віктар Дашук прадставіў гледачам работы сваіх маладых калег Галіны Адамовіч і Юрыя Азаронка. Гэта дакументальныя стужкі "Палюбі мяне чорненькім" і "Маналог пасля смерці". Апошняя на прэстыжным міжнародным фестывалі славянскіх фільмаў у Тыраспалі атрымала галоўны прыз.**

**Галіна Адамовіч і Юрый Азаронак — выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў, вучні славутага кінамайстра Віктара Дашука.**

*На здымку: кінарэжысёр Віктар ДАШУК (у цэнтры) са сваімі вучнямі, а цяпер калегамі Галінай АДАМОВІЧ і Юрыем АЗАРОНКАМ.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

# ЁСЦЬ КАЗКІ... ЁСЦЬ І ТЭАТР... КАЗКІ

**Не прафесійны, а самадзейны. А ўзнік ён пры дзіцяча-юнацкім клубе "Атлант" Мінскага завода халадзільнікаў. Дзякуючы кандыдату педагагічных навук Святлане Рукавіцынай. Першым спектаклем стала "Блакітная птушка". Першым, але не апошнім. Калі ў іншых калектывах мастацкай самадзейнасці ўзнікаюць цяжкасці, дык Тэатр казкі імкнецца іх пераадольваць. Таму і рыхтуецца тут новы спектакль, у аснову якога пакладзена казка Аскара Уайльда "Зорны хлопчык".**

Выставы

# ЯГО ВАБІЦЬ НЕЧАКАНАСЦЬ...

У галерэі "Верхні горад", якая месціцца ў будынку Саюза кампазітараў Беларусі якраз у Верхнім горадзе, прайшла выстава мастака, супрацоўніка "ЛіМа" Уладзіміра Скрыганава.

Апошнім часам традыцыі адкрыцця маленькіх персанальных экспазіцый у галерэях Мінска стала трывалай. Ды і галерэй большае на вачах, яны шчыльна запоўнілі гістарычную частку горада. Зрэшты, з гэтага і мы перанялі добрую заходнюю традыцыю не справаздачных дзяржаўных, а камерных, часам камерцыйных выставак. Тут кожны, хто жадае давесці значнасць сваёй творчасці, мае магчымасць выпрабаваць сябе. Заміная адно: не хапае рэкламы ды не паўсюль склалася яшчэ адпаведная "цырымонія" адкрыцця.

Тое, што адбылося колькі дзён таму ў галерэі "Верхні горад", стала нечаканасцю. У гэты вечар гучала музыка і песні ў выкананні майстроў музычнага мастацтва, а пасля само сабою "сабраўся" імправізаваны "салон" з добрых знаёмцаў — мастакоў, артыстаў, пісьменнікаў — ды зацікаўленых пакупнікоў і запрошаных замежных гасцей. Такой сяброўскай, развэжлівай атмасферы, часам вельмі не хапае на творчых вечарынах, асабліва калі яны адбываюцца з прычыны мастацкіх з'яў.

Уладзімір Скрыганаў — не навічок у мастацтве. Ягоныя работы, як і многіх іншых беларускіх мастакоў, знаходзяцца ў калекцыях прыватных асоб Германіі, ЗША, Англіі, Аўстраліі, Ізраіля. Адбыліся тры яго выставы сумесна з сябрамі ў Мінску, адна ў Германіі. Гэтым разам выстава Уладзіміра стала першай спробай скласці асабістую мазаіку творчасці, прадставіць сваё мастакоўскае аблічча.

Творчы лёс Уладзіміра складваўся своеасабліва. У адзінаццаць год адчуў ён жаданне стаць мастаком. Ды шлях ягоны да мэты быў няпросты. Уладзімір ішоў да мастацтва самастойна, па-сутнасці самавукам. Засвоіўшы справу мастака-афарміцеля, працаваў на Жлобінскім аб'яднанні штучнага футра. Ад бацькі — майстра па дрэве — ды з прычыны працоўнай неабходнасці навучыўся разьбярству, дэкаратыўна-прыкладному мастацтву, вырабу рэчаў з металу, манументальнаму мастацтву: рэльефам, роспісам, вітражам, мазаіцы. А гадоў сем таму заняўся станковым жывапісам.

Творы Уладзіміра Скрыганава надзвычай колерава-святочныя, і гэта першае, што вылучае іх сярод іншых, суседніх па галерэйнай зале работ. Яго жывапіс бліжэй за ўсё да канцэптуальнага мастацтва, хоць і пішацца кожны твор як асацыятыўная фантазія пасля нейкага эмацыянальнага штуршка. У мастака няма ўлюбёнай тэмы, прывязанасці да пэўнай колеравай гамы альбо жадання набыць сабе пазнавальную манеру. Яго вабіць нечаканасць і магчымасць здзівіць гледача. Праўда, такое стаўленне (зауважым, досыць свядомае) мае і вялікую небяспеку. Уладзімір яшчэ шукае сябе ў мастацтве, не засяроджваючыся трывала на нейкай адной плыні; ён спрабуе розныя стылі, лёгка перакідваючыся ад адной крайняй мяжы да другой. Такі пошук прыадчыняе мастакоўскія далягляды, але не дазваляе паглыбіцца ў распрацоўку чыста тэхнічную, ды і тэматычную таксама. У выніку цяжка вылучыць нейкую пэўную работу этапам творчасці, пройдзеным і засвоеным. Хутчэй мастак давяраецца сваім імпульсіўным памкненням, спадзеючыся, відаць, на дасягненне поспеху праз інтуіцыю, а не праз канкрэтную школу. І гэта таксама шлях, да канца якога яшчэ далёка.

Але, звяртаючыся да ўсходняй мудрасці, ці ж не шлях — галоўнае для кожнага творцы?

**Н. ЖОГЛА**



*Мастак Уладзімір Скрыганаў*



*"Тут першых крокаў пакінуты сляды"*



*"Знікомы цень жаданняў"*



*"Першы вылет"*



*"У пошуках залатога дажджу"*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# СЦЯЖЫНКА ДА ЦУДОЎНАГА



**Эксперыментальная студыя выяўленчага мастацтва "Юны скульптар" адкрыта пры спарткомплексе мінскага вытворчага аб'яднання "Гарызонт". Пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, скульптара Івана Міско дзеці навучаюцца тут лепцы і малюнку. З часам, калі будзе набыты ганчарны станок, дзеці змогуць далучыцца і да гэтага віду мастацтва.**

**— Галоўная мэта студыі, — гаворыць Іван Якімавіч, — абудзіць у дзіцяці як мага раней пачуццё цудоўнага, выхаваць яго эстэтычны густ і, вядома, выявіць таленавітых дзяцей. Я пастараюся даць фантазіі дзяцей поўную свабоду, каб кожны змог праявіць сваю індывідуальнасць у поўнай меры.**

*На здымку: юныя скульптары на экскурсіі ў майстэрні ў І. Міско.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

# ЧАРГОВЫ ВЫПУСК "АЙЧЫНЫ"

**Нядаўна мы паведамлялі, што з'явіўся асветніцкі дадатак да "Настаўніцкай газеты". І вось, калі ласка, яго другі выпуск. Пад рубрыкай "Постаці Беларусі" змешчаны артыкул дацэнта кафедры філасофіі Беларускага педагагічнага універсітэта А. Міцкевіча "Язэп Лёсік". Развагі Лявона Гмырака "Свайго не цурайцеся, чужому навучайцеся", прамоўленыя яшчэ ў 1913 годзе, актуальныя і сёння: "Адным словам, са скарбаў агульналюдской культуры павінны мы карыстацца, але разам з тым павінны мы і самі жыць сваім культурным жыццём, каб магчы даць і сваю долю ў скарбніцу агульналюдской культуры, а даць тады толькі зможам, калі будзем стаяць на сваёй нацыянальнай аснове, калі свайго не будзем цурацца".**

**З нарыса настаўніка гісторыі мазырскай школы N 13 Я. Фарберава "Мазырская гімназія" можна даведацца пра адну з самых старэйшых навучальных устаноў на тэрыторыі Беларусі. А. Карлюкевіч ("Перададзена ад продкаў") рэцэнзуе кнігу Л. Лыча "Назвы зямлі беларускай", выпушчаную выдавецтвам "Універсітэцкае".**

**Да месца ў выпуску і рубрыка "Гонар і ганьба". Настаўніца гісторыі Вялікараёўскай школы Капыльскага раёна В. Каляда ("Склеп Алены і Сымона. Я ўсё яшчэ не магу паверыць у тое, што гэта праўда...") расказвае, як ля вёскі Савічы Капыльскага раёна дзікуны знішчылі магілы Алены і Сымона Вайніловічаў, тых самых Алены і Сымона, у памяць аб якіх іх бацька старшыня Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі, памешчык Эдвард Вайніловіч пабудаваў у Мінску касцёл, што вядомы цяпер як Чырвоны (плошча Незалежнасці).**

# ЦУД НА БЕЛАЙ ДАЧЫ

**Але, на той самай Белай дачы ў Мінску, што знаходзіцца па вуліцы Казінца ў Курасоўшчыне. І адбыўся ён дзякуючы персанальнай выстаўцы В. Сафроненкі. Віктар Міхайлавіч чаруе над дрэвам. Што ні зробіць ён — звычайную лыжку, свяцільнік, вазу ці мэблю — усё гэтае мае не толькі прыкладное значэнне, а іператвараецца ў твор сапраўднага мастацтва. Настолькі ўмела, таленавіта працуе В. Сафроненка. Нездарма ён удастоены звання народнага майстра Мастацкага фонду Беларусі, а яно прысвойваецца толькі самым-самым...**

**Па прафесіі Віктар Міхайлавіч — інжынер-будаўнік, цяпер працуе інспектарам Дырэкцыі метрапалітэна. Апрацоўкай дрэва захапіўся гадоў трынаццаць назад. З задавальненнем дзеліцца сваімі сакрэтамі з іншымі. З'яўляецца аўтарам кнігі "Другое жыццё дрэва", адным з аўтараў "Хатняй майстэрні" — рубрыкі на старонках газеты "Вечерний Минск". А яшчэ Віктар Міхайлавіч напісаў "Энцыклапедыю хатняга майстра", памер якой — больш чым 30 выдавецкіх аркушаў!**

# Леанід ПРОКША



9 снежня 1994 года на 83 годзе жыцця памёр вядомы беларускі пісьменнік Леанід Прокша.

Леанід Януаравіч Прокша нарадзіўся 19.4.1912 года ў г. Полацку. Скончыў Мінскі педагагічны тэхнікум (1931) і чатыры гады настаўнічаў у Мазырскім раёне і на рабфаку ў Барысаве. Пасля службы ў войску (1935—1937) працаваў літработнікам у газеце "Віцебскі рабочы" (1937—1940), у польскай газеце "Штандар вальносці" (Мінск, 1940—1941), рэдактарам польскай рэспубліканскай дзіцячай газеты "Піянер" (1941). У гады Вялікай Айчыннай вайны — ваенны журналіст. У 1955 годзе скончыў Ваенна-палітычную акадэмію. З 1956 года працаваў у рэспубліканскіх часопісах, у 1969—1972 гг. — галоўным рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва".

Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны I і двума — II ступеняў, Чырвонай Зоркі, медалямі.

Выступаў у друку з 1937 года.

Пісаў на беларускай і рускай мовах. Першы зборнік апавяданняў "Источник красоты" выдаў у 1960 годзе. Затым выйшлі з друку каля дзесяці гумарыстычных кніг, аповесці "Ці варта было жаніцца" (1968), "За Добрыцай-рэчкай" (1975), некалькі публіцыстычных кніг. Найбольшую вядомасць пісьменніку прынеслі раманы "Пакуль жывеш на свеце" (1980), "Туника Несса" (1986), "Урокі любові і нянавісці" (1990). Выйшлі аповесці для дзяцей "Мальчик в больших башмаках" (1963), "Незвычайныя прыгоды хлопчыка Бульбінкі" (1973), "Стрэлы над ярам" (1974).

У сваёй творчасці Леанід Прокша адгукаўся на самыя надзённыя праблемы жыцця, умела выкарыстоўваў жанры памфлета, фельетона. Яго творы служылі і доўга будуць служыць справе патрыятычнага выхавання моладзі, абуджэння ў чалавеку лепшых маральных якасцяў.

З жыцця пайшоў добры, чулы, спагадлівы чалавек. Побач з ім было ўтульна і надзейна.

Такім ён назаўсёды застанецца ў нашай памяці.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

# ХАРОШЫ ЧАЛАВЕК — ГЭТА ПРАФЕСІЯ

У наш тлумны час з яго абвальным прагматызмам і голым разлікам, не-не, а пачуеш вымаўленую пагардлівым тонам фразачку, накшталт: "Харошы чалавек — гэта яшчэ не прафесія", фразачку з досыць празрыстым падтэкстам — усе гэтыя інтэлігентнасць, прыстойнасць, душэўная дабрыня і спагадлівасць нікому сёння непатрэбны. Не з іх, маўляў, пачынаецца шкала чалавечых вартасцей.

З іх. І ў гэтым сэнсе харошы чалавек — гэта прафесія. Прафесія, вядома, не ў вузкім сэнсе гэтага слова, не толькі як набор прафесійных і дзелавых якасцей, а яшчэ і як уменне акумуляваць у сабе дабрыню, душэўны спакой, добразычлівасць, гатоўнасць у цяжкую хвіліну падставіць плячо бліжняму. Якасці — неацэнныя для любога чалавека, а тым больш для кіраўніка. А такім і быў незабыўны Леанід Януаравіч Прокша, смерць якога да глыбіні душы ўзрушыла лімаўцаў, а сярод іх асабліва тых, каму давялося працаваць з ім, галоўным рэдактарам.

Ён прыняў "ЛіМ" пасля Нічыпара Еўдакімавіча Пашкевіча, зрабіўшага нашу пісьменніцкую газету адным з самых уплывовых і важкіх выданняў на Беларусі. Да гонару Леаніда Януаравіча ён стараўся зберагчы лімаўскія набыткі, а дзе можна і прымножыць іх. Дарэчы, гэта пры Л. Прокшы, па яго ініцыятыве, "ЛіМ" асучасніў свой фармат, свой знешні выгляд, які захаваўся без прыкметных змен да сённяшняга дня.

Леанід Януаравіч быў у добрым сэнсе лёгкім, кампанейскім чалавекам, яшчэ — вельмі дасціпным, і яшчэ — на рэдкасць дэмакратычным у стасунках з аўтарамі, з калектывам. Такім ён і застанецца ва ўдзячнай нашай памяці.

**ЛІМАЎЦЫ**

# ЯКАЯ ЯНА, ПРАЎДА ВАЙНЫ?

*(Пачатак на стар. 5)*

**люмпенізаваных элементаў, з вельмі нізкім інтэлектуальным і адукацыйным узроўнем — недзе тры-чатыры класы пачатковай школы. Пераважная колькасць здраднікаў ніякімі ідэйнымі меркаваннямі, вядома, не кіравалася, ішла ў паліцыю, пакваліўшыся на добры паёк, жалаванне, магчымасць parабаваць, паздзекавацца з людзей.**

— У дні святкавання 50-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў усе сродкі масавай інфармацыі прысвяцілі гэтай даце нямала розных матэрыялаў. Аднойчы чую па радыё выступленне аднаго з гісторыкаў, які распавядаў слухачам аб парадках, якія існавалі ў акупаваным Мінску, — што выдавалася на прадуктовыя карткі, якія тэатры працавалі і што ў іх ставілася і да т. п. Адным словам, жыві і радуйся...

**— Мне падобныя "гістарычныя" экскурсы таксама даводзілася чытаць і слухаць па радыё. У пагоні за гэткай псеўдааб'ектыўнасцю іх аўтары чамусьці забываліся сказаць, што ў тым жа скверы каля Купалаўскага тэатра, дзе праводзіліся немцамі і іх паслугачамі розныя "культурныя" мерапрыемствы, стаялі шыбеніцы, якія рэдка пуставалі, а за тры-чатыры кварталы адсюль за калючым дротам гета па-звярынаму забівалі старых, жанчын і дзяцей.**

— Адзін з нашых маладых суайчыннікаў — Міхаіл Нікіцін зарэкамендаваў сябе скрупулёзным даследчыкам дзейнасці сфарміраваных акупацыйнымі ўладамі розных мясцовых "грамадскіх" фарміраванняў — Цэнтральнай рады на чале са старым агентам гестапа Астроўскім, Саюза беларускай моладзі, арганізацыяй "Самапомачы", "Самааховы" і да т.п. Засталіся тысячы дакументаў, якія адназначна сведчаць аб тым, што яны цалкам кантраляваліся і накіроўваліся немцамі. Узяць хоць бы тую ж, так званую, "Самапомач", якая дапамагала пэўнай частцы насельніцтва (заўважым, пераважна той, што лаяльна ставілася да акупантаў). Дапамагала, то дапамагала, ды за чый кошт? А за кошт прымусовых падаткаў, ды з адабранага ў расстраляных чырвонаармейскіх і партызанскіх сем'яў ды вязняў гета. Захаваліся цікавыя дакументы аб арганізацыі на акупаванай тэрыторыі школьнай адукацыі, наконт якой таксама сёння сям-там друкуюцца скажоныя звесткі. Справа падаецца так, быццам акупацыйныя ўлады не ўмешваліся ў дзейнасць школ, якія, у адрозненне ад даваеннага часу, былі, маўляў, поўнасцю дэідэалагізаваны. Нічога не можа быць больш далёкім ад ісціны. У акупацыйнай "Менскай газэце" за 21 кастрычніка 1941 года была змешчана інфармацыя аб сустрэчы кіраўніка аддзела палітыкі генеральнага камісарыята Беларусі (вышэйшага органа акупацыйных улад) з школьнымі інспектарамі, што былі праінструктаваны, якую палітыку трэба зараз праводзіць у школах. Генеральны камісар, гаўляйтар Беларусі Кубэ прадпісваў кожны ўрок у школе пачынаць з гутаркі аб "новым парадку" ў Еўропе на чале з Адольфам Гітлерам. "Кожны бальшавіцкі ўплыў, што будзе выходзіць із школы, — папярэджваў ён, — будзе карацца смерцю". ("Менская газэта" ад 5 кастрычніка 1941 года).

Што тычыць створанага фашыстамі Саюза беларускай моладзі (СБМ), які ў многім нагадваў нямецкі "Гітлерюгенд", то яшчэ 20 лютага 1944 года на пасяджэнні, прысвечаным другому выпуску курсаў вышэйшых кіраўнікоў СБМ, "фюрэр" гэтай арганізацыі Ганько хваліўся (а "Беларуская газэта" разнесла яго пахвальбу сваім чытачам), што Саюзу беларускай моладзі ёсць чым ганарыцца — гэта і ўзброеная барацьба супраць партызан, і добраахвотныя роты СС, і служба ў даламожных часцях Германіі, адданасць кіраўніку "новага парадку" ў Еўропе, вялікаму фюрэру Адольфу Гітлеру.

Многія з нагаданых мной дакументаў склалі новую экспазіцыю, якая, думаю, зацікавіць нашых наведвальнікаў.

**— Калі знаёмішся з экспазіцыяй вашага музея, міжволі ў галаву прыходзіць адно вядомае выслоўе: "На вайне гарады бяруць генералы, а здаюць іх салдаты". Я гэта да таго, што ідзеш з залы ў залу і на цябе глядзяць са стэндаў пераважна твары военачальнікаў, камандзіраў партызанскіх брыгад і злучэнняў. Тут жа пад шклом іх вопратка, амуніцыя, зброя, іншыя асабістыя рэчы. Помню, многія гады адна з музейных залаў была цалкам прысвечана былому камандзіру партызанскага злучэння, а пасля Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. Казлову.**

— Калі гаварыць пра В. Казлова, дык рашэнне аб стварэнні прысвечанай яму асобнай экспазіцыі прымалася, як вы разумееце, не ў сценах музея. А ўвогуле, я з вашай заўвагай згодны. І хоць большасць военачальнікаў безумоўна заслугоўвае таго, каб быць паказанымі на музейных стэндах, рабіць гэта трэба было не за кошт паказу радавых салдат і партызан, якія вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар вайны, і менавіта яны павінны былі заняць цэнтральнае месца ў музейнай экспазіцыі. Мы пра гэта думаем і будзем справу выпраўляць, хоць, як вы разумееце, радыкальна перарабіць экспазіцыю патрэбны час.

**— Я ведаю, што ўсе пасляваенныя гады ваш музей быў цэнтрам прыцягнення тысячаў былых франтавікоў і партызан...**

— Так, вайна, калі адлегласць яе мераць гадамі, даўно адышла ў мінулае, але я не перастаю здзіўляцца, як моцна яна засела ў сэрцах і памяці тых, хто яе перажыў. І з гэтай памяццю яны дасюль прыходзяць у музей, каб расказаць аб сваім жыцці-быцці, сустрэцца з баявымі сябрамі. А музей, дарэчы, даўно ўзяў на сябе клопат аб арганізацыі такіх сустрэч, канферэнцый, "круглых сталоў" і да т.п. Я не кажу ўжо пра тое, што многія прыходзяць да нас, як ва ўстанову, дзе можна атрымаць даведку аб франтавым ці партызанскім мінулым. У музеі створана вялізная картатэка, якая ўтрымлівае звесткі аб тысячах былых удзельнікаў вайны. Можна было шмат расказваць і пра дапамогу, якую музей аказваў і працягвае аказваць родным загінуўшых у партызанскіх атрадах, у складзе баявых парадкаў рэгулярных войск у час баёў на тэрыторыі Беларусі. Я маю на ўвазе людзей — выхадцаў з іншых рэспублік былога Савецкага Саюза, якіх нямала палягло на нашай зямлі.

Іншая справа, што калі раней супрацоўнікі музея мелі магчымасць рэгулярна ездзіць па музеях краіны, абменьвацца з калегамі рознай інфармацыяй, працаваць у мясцовых архівах, дык цяпер такія камандзіроўкі сталі амаль немагчымыя з-за адсутнасці сродкаў, з-за розных перашкод, звязаных з узвядзеннем граніц паміж былымі рэспублікамі. Ды што камандзіроўкі, калі мы абмежаваны нават у паштовых выдатках!

**— Ну, што ж, мне застаецца пажадаць вам пераадолець і гэтыя сённяшнія вашы цяжкасці. Трэба быць аптымістамі, бо інакш і жыць нельга. Дзякуй вам за змястоўную гутарку.**

***25—27 кастрычніка, пра што "ЛіМ" паведамляў, адбылася І Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя дырэктароў літаратурных музеяў. Тэма канферэнцыі была сфармулявана так: "Літаратурны музей і культурна-асветніцкія задачы сучаснасці". Кола пытанняў, закранутых у асноўным дакладзе (дырэктара Аб'яднання літаратурных музеяў РБ Л. Хадкевіча), знайшло свой працяг у выступленнях спецыялістаў-музейшчыкаў розных профіляў.***

***Прапануем вашай увазе даклад кандыдата гістарычных навук А. Каўбаскі, дзе ўзнімаюцца вострыя праблемы ўсёй музейнай справы Беларусі.***

***Па выніках канферэнцыі было зроблена падсумаванне, своеасаблівае рэзюме, якое мы таксама змяшчаем на нашых старонках, і спадзяёмся, што гаворка пра музеі і музеязнаўства будзе прадоўжана.***

# БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ І МУЗЕЯЛОГІЯ

## БЛІЗКІЯ СУСЕДЗІ ЦІ ДАЛЁКІЯ СВАЯКІ?

Паспрабую зрабіць агляд сітуацыі, што склалася сёння ў Беларусі з музеялогіяй, і сфармуляваць прапановы, накіраваныя на змяненне гэтай сітуацыі. Форма абрана традыцыйная: дыялог у жанры "ціха сам з сабою". Паставіўшы дзевяць пытанняў, паспрабую знайсці на іх адпаведную колькасць адказаў.

1. Што робіцца з музеялогіяй у свеце? На працягу XX стагоддзя ідуць нармальныя працэсы фарміравання музеялогіі як навуковай дысцыпліны. Фарміруюцца школы даследчыкаў (славацкая, нямецкая, англьская, канадская, галандская і інш.), прадстаўнікі якіх (З. Странскі, Й. Бенеш, І. Гяўступны, К. Хадсан, Г. Брандт і інш.) распрацоўваюць тэарэтычныя праблемы, вядуць пошук адказаў на пытанні, што ёсць музей, што ёсць музейны прадмет. З XVI стагоддзя пішуцца дапаможнікі і падручнікі па гісторыі музеяў і музейнай справе. У свеце з 1948 г. існуе міжнародная арганізацыя ЮНЕСКО, якая апякаецца музеямі, выходзіць шэраг часопісаў, накшталт "Museum", "Museum News", "Museum Studies", "Museum Buletin" і інш. Безумоўна, у любой цывілізаванай краіне свету ёсць стройная сістэма, якая забяспечвае музеі кваліфікаванымі кадрамі і падлітвае кафедры кваліфікаванымі выкладчыкамі.

2. Што было ў СССР? У СССР да часу яго распаду адбываліся (найперш у Маскве) больш-менш адэкватныя працэсы. Маскоўскі інстытут культуры, які ўваходзіў у сістэму МК РСФСР, сіламі сваіх супрацоўнікаў праводзіў даследаванні па шэрагу тэарэтычных распрацовак, існавала некалькі падручнікаў (напрыклад, А. Міхайлоўскай "Музейная экспозиция" (1964), "Музееведение. Музеи исторического профиля" (1988), выходзілі навуковыя працы Музея Рэвалюцыі, Дзяржаўнага Гістарычнага музея. СССР з'яўляўся членам ІКОМа, што спрыяла распаўсюджванню перадавых ідэй сярод музейных практыкаў. Спрычыніўся да гэтага і часопіс "Советский музей". Закладваўся праз сістэму аддзяленняў і кафедр механізм падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў у Маскве, Ленінградзе і буйных абласных цэнтрах. Існавала спецыялізацыя ў ВАКу СССР "Музееведение", якая давала магчымасць пакрысе рыхтаваць кандыдатаў і дактароў навук. Больш-менш поўна Маскоўская бібліятэка імя Леніна камплектавалася літаратураю па музейнай тэматыцы.

3. Што засталося ў Расіі? Расія як адзіны спадкаемца былога СССР захавала за сабою інстытут культуралогіі з аддзелам музейнага праектавання, склад якога нават у самыя цяжкія часы не меншаў за 15 чалавек. Хаця і са значнымі хібамі, але засталіся дапаможнікі і падручнікі па музейнай справе. Засталося членства ў ІКОМ, часопіс, які стаў насіць нейтральную назву "Мір музея" і абмежаваў кола сваіх інтарэсаў расійскай тэматыкай. Засталіся выкладчыкі, кафедры, механізм забеспячэння навучальнага працэсу метадычнай літаратурай, праўда, значна пашкуматаны вынікамі пераходу ад рынкавых адносін. Тым не менш Расія здолела захаваць і сістэму аспірантуры з дактарантураю па спецыяльнасці "Музееведение", што пакідае надзею на будучую перспектыву для музеязнаўчай думкі ў Расіі. Адмоўна адбіліся сучасныя працэсы на паступленні літаратуры ў ГБЛ, затое адкрытыя межы кампенсуюць зацікаўленым людзям недахоп літаратуры магчымасцю ўступаць у непасрэдныя кантакты з заходнімі музеёлагамі.

4. Што было і згублена на Беларусі? У бягучым стагоддзі найбольш вартым сённяшняй увагі і пераймання можна лічыць вопыт 20-х гадоў. Уздым краязнаўчага руху, стварэнне шэрагу цікавейшых музеяў, І і ІІ краязнаўчыя з'езды, існаванне Галоўнавукі пры Наркамсветы, якая сапраўды ставіла музеі ў адзін шыхт з кафедрамі і НДІ, 6-тыднёвыя курсы-студыі пры БДУ, дзе В. Ластоўскі чытаў лекцыі "Музеязнаўства і музеябудаўніцтва" — гэтыя і многія іншыя пачынанні былі растаптаны монстрам па прозвішчы "ідэялагізацыя". Увогуле ж гісторыя нават не музеялогіі, а музеяў на Беларусі ад самага пачатку ёсць гісторыя вар'яцкага эксперыменту па выпрабаванні жыццёвай сілы тутэйшых людзей. Другія нацыі калі не памнажаюць, то захоўваюць сваю спадчыну, а нашу дзеляць, дзеляць, дзеляць... Які прыклад ні вазьмі. Зборы Вялікіх князёў Літоўскіх, Радзівілаўскія ці Сапежанскія калекцыі, Віленскі музей старажытнасцяў ці царкоўна-археалагічныя музеі... Толькі недахоп часу для пераліку перапыняе гэты сумны спіс.

5. Чаго не мае Беларусь? Разглядаючы Беларусь як суверэнную дзяржаву, можна з горыччу канстатаваць, што яна не мае нічога. Развіваючыся па аксіёме: навошта малодшаму брату жонка, калі яна ў старэйшага ёсць, мы прыйшлі да таго, да чаго прыйшлі. У нас няма школы, няма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў як сістэмы. Крый божа, хай не пакрыўдзяцца выкладчыкі БДУ, дзе тры гады таму быў зроблены першы набор на спецыяльнасць "музеязнаўства", ды універсітэта культуры, дзе гэту справу распачалі сёлета. Але застаецца адкрытым пытанне, хто будзе вучыць гэтыя кадры? З усіх вядомых нам выкладчыкаў адзін А. Гужалоўскі (БДУ) валодае патрэбным патэнцыялам: педагагічная адукацыя, вопыт практычнай работы ў музеі, кандыдацкая дысертацыя па гісторыі музейнай справы Беларусі, абароненая ў Маскве, і пісьменніцкі, як кажуць, ад бога дар. Але ён адзін, а адзін — гэта далёка не сістэма. Што тычыцца высокага ўзроўню практыкаў, якімі багатыя нашы музеі, то жыццё паказвае, што далёка не ў кожнага ёсць час, патэнцыял, жаданне і схільнасць да асветніцка-педагагічнай дзейнасці. Яскрава засведчыў гэта працэс пошуку аўтараў для першага дапаможніка па музейнай справе.

Работа, якая распачата па прыватнай ініцыятыве ў 1993 годзе, выявіла ўсе вышэйазначаныя хібы і праблемы. Пачынаючы ад распрацоўкі плана-праспекта дапаможніка (пасля гэтага І этапа распрацоўкі грошы ў Міністэрства культуры на дапаможнік скончыліся) да пошуку аўтараў, якія маглі б з вышыні ўласнага практычнага вопыту паспрабаваць асэнсаваць яго і зрабіць пэўныя метадычныя парады калегам.

Тут хочацца выказаць падзяку дзядзьку Сорасу, які за акіянам адчуў, што перабудова грамадства не абыдзецца без гуманітарызацыі адукацыі, і знайшоў жменьку долараў, каб праца над дапаможнікам магла быць завершана і каб у 1995 годзе ўбачылі свет першыя 500 асобнікаў пробнага наклада.

Калі доўжыць пералік, чаго Беларусь не мае, то трэба згадаць, што яна засталася без свайго перыядычнага выдання (часопіса), без рэальнага членства ў ІКОМ (я тут не кажу пра фармальнае ўтварэнне беларускага камітэта колькі гадоў таму назад), без традыцыі падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў, без метадычнага забеспячэння навучальнага працэсу, без сістэмы дактарантуры і аспірантуры, без канцэпцыі накірункаў развіцця музейнай сеткі і як вынік — без перспектывы. Адсюль і слабасць канцэптуальных распрацовак будучых музеяў. Яскравы прыклад: канцэпцыя музея-запаведніка Нясвіж, прапанаваная для абмеркавання на міжнародным сімпозіуме "Нясвіж як агульнаеўрапейская каштоўнасць". Да ўсяго сумнага пераліку засталося толькі дадаць, што спыніліся, хай сабе і бессістэмныя, паступленні музеялагічнай літаратуры ў Нацыянальную бібліятэку.

6. Што мы маем? Нягледзячы на фантастычную карціну страт і разбурэнняў, мы яшчэ многае маем. Сёння сумарны фонд музейных прадметаў толькі ў дзяржаўных музеях сістэмы Мінкульта сягае за 2 мільёны адзінак. Лік музейнай сеткі дзяржаўных музеяў пераўзыходзіць сотню. Больш за тысячу бессярэбранікаў-практыкаў штодзённа змагаюцца за выжыванне сваіх родных музеяў. Ёсць спробы распачаць падрыхтоўку (БДУ, універсітэт культуры) і перападрыхтоўку ўжо працуючых супрацоўнікаў па спецыяльнасці "Музейная справа" (Беларускі інстытут праблем культуры).

Гэта многа. Але гэта ўсё ў асноўным не выходзіць за зачараванае кола эмпірыкі. Няма сістэмы тэарэтычнага асэнсавання асноўных музеялагічных праблем: музейнай камунікацыі, музейнай тэзаўрацыі, музейнай педагогікі, гісторыі музейнай справы, асэнсавання праблем музейнага прадмета, музейнай тэрміналогіі.

Тут мы з вамі наблізіліся да адказу на пытанне, вынесенае ў загаловак: па-суседску ці па-сваяцку суадносяцца на Беларусі музеі і музеялогія? І не так, і не гэтак. Калі і далей ісці шляхам алегорыі, то музейную сетку рэспублікі можна параўнаць з квяцістым лугам. На лузе гэтым, дзе квітнеюць рознай прыгажосці і свежыні кветкі, там-сям паваляўся конь музеялогіі. Карціна можа набыць рысы ідыліі, калі б на гэтым лузе пасвілася яшчэ і кароўка. Кароўка (музеялагічны цэнтр ці лабараторыя), якая б ужывала гэтую разнакветнасць і час ад часу давала б малако, хай сабе і рознай тлустасці.

7. Што мы можам? Адказ на гэтае пытанне прадугледжвае два варыянты. Першы (прасцейшы) — нічога. Трэба сядзець і чакаць да Новага года, пакуль прэзідэнт "запусціць" заводы, а потым возьмецца за тэарэтычную распрацоўку праблем музеялогіі. Праўда, ёсць небяспека, што пасля заводаў наступіць чарга фабрык, саўгасаў, калгасаў, шпіталяў, дамоў культуры і г. д. Другі (складанейшы) — пачаць варушыцца самім. Тут ізноў ёсць два шляхі. Першы (прасцейшы): дырэктарам буйных музеяў, склаўшы разам існуючыя вакансіі, прыйсці (пры наяўнасці добрай волі) да прызнання неабходнасці стварэння рэспубліканскага цэнтра (лабараторыі) музеялогіі. Хай сабе напачатку ён складзецца з 3—5 чалавек. Другі (складанейшы): прасіць Міністэрства культуры і друку ў рамках Беларускага інстытута праблем культуры адкрыць, у межах існуючага штату, лабараторыю музейнага праектавання.

8. Што можа цэнтр (ці лабараторыя) музеялогіі? Перш за ўсё не на аматарскім, а на сур'ёзным узроўні пачаць сістэматызаваць замежны вопыт распрацовак асноўных тэарэтычных аспектаў музеялогіі, уключыўшыся ў распрацоўку найбольш перспектыўных. Арганізаваць выпуск бюлетэня (часопіса), дзе б адсарбіраваўся ўласны практычны вопыт, праз які можна было б знаёміць супрацоўнікаў беларускіх музеяў з замежным вопытам. Цэнтр мог бы ініцыіраваць увядзенне БелВАК(ам) у свой пералік спецыялістаў яшчэ адну графу "музеялогію" — для кандыдацкіх і доктарскіх даследаванняў. Ён быў бы ў стане сфармуляваць накірункі гэтых даследаванняў праз сістэму мэтавай аспірантуры (дактарантуры) і адбіраць з ліку зацікаўленых спецыялістаў, схільных да навукова-выкладчыцкай дзейнасці. Лабараторыя (ці цэнтр) магла б выконваць гаспадарча-разліковыя тэмы па распрацоўцы асобных музейных канцэпцый і экспазіцый. Акрамя гэтага, цэнтр мог бы выконваць пэўны час (пакуль сфарміруюцца сапраўдныя кафедры) функцыю адзінай кафедры музеялогіі для дзвюх вышэйшых навучальных устаноў: Нацыянальнага універсітэта культуры і Беларускага інстытута праблем культуры.

9. Чаго трэба перасцерагчыся, беручыся за стварэнне такой лабараторыі? З аднаго боку — манаполіі таго ці іншага музея на гэты цэнтр. Інакш ён непазбежна ператворыцца ў навукова-метадычны прыдатак, які будзе выкарыстоўвацца ў ролі "пажарніка" пры выкананні тэрміновых заказаў. З другога — ён не павінен трапіць у апарат Мінкульта, каб не стаць яшчэ адным структурным пазванком кіруючага апарату.

Вывад: Мы павінны прызнаць, што выкарыстаўшы сёння гістарычны шанц, рэальна можам зрабіць яшчэ ў XX стагоддзі беларускія музеі і музеялогію суседзямі, каб яны, пабраўшыся шлюбам у XXI, сталі сваякамі.

**А. КАЎБАСКА,**
**дырэктар Гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе"**

** З прамовы на І Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі дырэктароў літаратурных музеяў. Мінск, 25—27 кастрычніка 1994 г.*

**"Наша канферэнцыя з'яўляецца фактычна першым міжнародным форумам дырэктароў літаратурных музеяў Беларусі, Расіі, Украіны, якая адбылася на беларускай зямлі. На ёй упершыню разгледжаны многія актуальныя праблемы нацыянальнага музеязнаўства і дзейнасці літаратурных музеяў у звязку з сучаснымі культурна-асветніцкімі задачамі.**

**Літаратурныя музеі з'яўляюцца адным з галоўных захавальнікаў духоўнай і культурнай спадчыны народаў, носьбітамі асветы, гуманізму. Разнастайнымі формамі яны выхоўваюць у наведвальнікаў (а гэта пераважна моладзь) нацыянальна-патрыятычныя пачуцці, пашыраюць веды пра пісьменнікаў, іх асяроддзе і гістарычную эпоху.**

**Літаратурныя музеі на сучасным этапе — гэта навукова-асветніцкія цэнтры, якія ўносяць вялікі ўклад у нацыянальнае адраджэнне, вяртаюць грамадству імёны тых людзей, што сталі бязвіннымі ахвярамі таталітарных рэпрэсій, выгнаннікамі з роднага краю, уносяць свой уклад у стабілізацыю дзяржаўнага ладу.**

**Музей сёння з'яўляецца асяродкам нацыянальнага руху, эталонам нацыянальнай культуры.**

**Удзельнікі канферэнцыі лічаць сваім абавязкам працягваць векавыя традыцыі ўзаемасувязей славянскіх культур, сродкамі музейнай камунікацыі садзейнічаць іх пераемнасці. Яны таксама лічаць мэтазгоднай працу па стварэнні агульных літаратурных выстаў, абмену часовымі экспазіцыямі, асобнымі экспанатамі. У сувязі з праблемай вяртання спадчыны неабходна наладзіць абмен фота-, ксера-, мікра- і відэаматэрыяламі.**

**Удзельнікі канферэнцыі звяртаюцца да пісьменнікаў, грамадскасці з заклікам падтрымліваць больш цесную сувязь з літаратурнымі музеямі, перадаваць ім свае матэрыялы, якія будуць беражна захаваны, навукова даследаваны і прадстаўлены шырокаму колу наведвальнікаў.**

**Удзельнікі канферэнцыі заклікаюць урадавыя колы сваіх краін спрыяць узняццю прэстыжнасці навуковага супрацоўніка музея, павялічыць яго сацыяльную абароненасць, садзейнічаць фарміраванню музеязнаўства як навуковай дысцыпліны.**

**Удзельнікі мінскай сустрэчы прыйшлі да высновы аб неабходнасці выдання матэрыялаў канферэнцыі, перыядычнага склікання міжнародных навуковых сімпозіумаў літаратурных музеяў з удзелам краін не толькі Усходняй, але і Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.**

**Удзельнікі канферэнцыі."**

быў прыцягнуць дзесяць чалавек, якіх добра ведаў. Члены партыі мелі партыйныя псеўданімы.

Як бачым, В. Замбржыцкі і яго паплечнікі мелі намер стварыць добра структураваную палітычную арганізацыю баявога тыпу, накшталт "Зялёнага Дуба".

Партыйную праграму распрацаваў Франц Фаміч Татур — 39-гадовы селянін з вёскі Рэпішча, беларус-католік, з сям'і арандатараў, сам арандаваў зямлю ў дзядзькі Віктара Замбржыцкага. Ён быў адным з тых нямногіх, хто ў гэтых мясцінах адразу падтрымаў савецкую ўладу, нават дапамагаў мясцовым сельсаветчыкам. Але хутка яго спасцігла расчараванне. На змену здзіўленню з безгаспадарчасці новых уладароў прыйшло абурэнне няспынным гвалтам. Раскулачванне, высылкі, арышты праследавалі яго сваякоў, аднавяскоўцаў, знаёмых з наваколля. Таму Ф. Татур адразу даў згоду на прапанову Замбржыцкага ўступіць у сялянскую партыю.

У матэрыялах следства захаваліся дзве невялікія кніжачкі з рукапісным тэкстам праграмы. Змест сведчыць, што пісаў чалавек адукаваны, з філасофскім складам мыслення, схільны да глыбокага аналізу і абгрунтавання. Бальшавізм — хвароба, да такой высновы прыйшоў Ф. Татур. Яго праграма — пошукі шляхоў выздараўлення. Будаваць "здаровую радзіму", на думку аўтара праграмы, можна прытрымліваючыся сямі асноўных лозунгаў-заклікаў:

1. За дэмакратычны самастойны лад жыцця.
2. За волю і справядлівасць, любоў і прастату!
3. За гняздо роднае!
4. За развіццё навукі і культуры!
5. Супраць эксплуатацыі!
6. За мірнае жыццё!
7. Рабі дабро людзям!

Адразу адчуваецца, што складаў гэты цікавы дакумент чалавек веруючы, які з болем успрымаў разбурэнне спрадвечнага ладу жыцця, горача жадаў змен да лепшага. Безумоўна, на некаторыя прапановы наклала адбітак савецкая рэчаіснасць. Гэта адчуваецца асабліва ў той частцы праграмы, дзе выказаны погляды на дзяржаўнае будаўніцтва, але галоўны прынцып, які клаўся ў аснову, — улада належыць не класу, а народу ў асобе выбраных прадстаўнікоў. Форма дзяржаўнай улады савецкая, але — без камуністаў. Лозунг паўстанцаў 20-х гадоў, як бачым, не згубіў сваёй актуальнасці. Вярхоўная ўлада — народнаму з'езду, паміж з'ездамі — выбранаму народам (не менш чым 79 працэнтаў выбаршчыкаў) Выканаўчаму камітэту. Кантрольныя функцыі, згодна праграме, належалі т.зв. Цэнтральнаму камітэту, таксама выбарчаму органу, які павінен быў сачыць за адпаведнасцю жыцця галоўным сямі прынцыпам. Праграма адстойвала ўласнасць на зямлю: "Пляцы перадаваць ва ўласнасць сялянам, рабочым і служачым без выкупу..." Партыйныя дакументы дэкларавалі бясплатнае навучанне дзяцей да 5-ці класаў, свабоду веравызнання. І яшчэ Ф. Татур запісаў і падкрэсліў: "Ніхто не мае права пазбавіць чалавека радзімы. Ніхто, нават дзяржава".

Праграма, такім чынам, зафіксавала пратэст сялянства супраць гвалтоўнай высылкі т. зв. "бандытаў" і раскулачаных. Сялянская партыя заклікала змагацца "за роднае гняздо", за сваю малую і вялікую радзіму. Захаваць свой дом, лад жыцця было ўсё цяжэй і цяжэй.

У 1930 годзе зноў на расійскую Поўнач, за Урал і шмат яшчэ куды паехалі ахвяры калектывізацыі. Выслалі, праўда, выпадкова (арганізацыя не была яшчэ выкрыта) некалькі членаў партыі. У лютым 1930 г. далёка ад роднага Ганутава апынуліся браты Аляксандр і Мікалай Старжынскія, выслалі некалькі сем'яў з Рэпішча, у тым ліку і Захарэвічаў. Апусцелі вёскі Уборак і Тысячная Града. На некаторы час партыйная праца прыпынілася. Але з ліпеня 1931 г. у Пухавіцкім і Асіповіцкім раёнах сталі з'яўляцца ўлёткі антысавецкага зместу. Улёткі заклікалі актыўна супрацьдзейнічаць арганізацыі калектыўных гаспадарак, у якіх аўтары звароту да сялян бачылі толькі фармальны сродак для ажыццяўлення галоўнай задумы ўлад — пазбаўленне сялянства зямлі і ўсталяванне прыгоннага права.

Адпаведныя дзяржаўныя органы адрэагавалі хутка. У небяспечнай мясцовасці з'явіўся следчы Лісоўскі, які доўгі час рабіў выгляд, што шукае золата. Пастанова аб арышце 150-ці членаў арганізацыі (27 чалавек толькі з Рэпішча) выйшла 5 мая 1932 года. Хваля арыштаў пракацілася па вёсках Ганутава, Высокая Старына, Зафранцузская і Французская Грэбля, Падкоссе, Суціна, Блужскі Бор, Малінаўка Пухавіцкага раёна, Турная Гара, Корч Чэрвеньскага, у шмат якіх вёсках Асіповіцкага раёна, у мястэчку Пухавічы. 22 мая 1932 года быў затрыманы Віктар Замбржыцкі. Ён ведаў, што яго як "польскага шпіёна" чакаў расстрэл, свайго баявога мінулага не хаваў, спрабаваў скончыць жыццё самагубствам — не атрымалася. Радавыя члены партыі былі асуджаны на дзесяць год выпраўча-працоўных лагераў. Многія амаль усё жыццё правялі ў зняволенні. Раманоўскі Аляксандр Міхайлавіч з Турнай Гары быў арыштаваны ў 1932 годзе, атрымаў тэрмін дзесяць год, апынуўся спачатку ў Марыінску, потым у Паўночнаўсходнім лагеры ў Магадане. На волю выйшаў толькі ў 1947 годзе. У студзені 1949 года быў арыштаваны ДПУ зноў па сумна вядомай сфальсіфікаванай справе "Працоўнай сялянскай партыі" ("Трудовой крестьянской партии" — ТКП). І зноў этапам — у Новасібірск.

У 1952 годзе ў пракуратуру са скаргай звярнуўся Антон Паскробка, былы селянін з вёскі Зацітава Слабада Пухавіцкага раёна. "Ужо 20 год нясу незаслужанае пакаранне. Маю ўзрост 60 год і вельмі дрэнны стан здароўя. Прашу зразумець маё старэчае становішча, пераглядзець справу... Дайце магчымасць завезці старыя косці на радзіму, бо тут, на высылцы, няма каму дагледзець, а на радзіме тры дачкі". У пераглядзе справы было адмоўлена. Так і памёр стары ў пасёлку Рагоўскія Грывы Новасібірскай вобласці.

Жорстка былі наказаны гэтыя людзі за тое, што паспрабавалі супрацiўляцца авантурнай палітыцы сацыялістычнай "перабудовы" вёскі. Удзельнікі антыбальшавіцкага руху 20-х гадоў афіцыйнымі дзяржаўнымі органамі рэабілітаваны. Але, на маю думку, патрэбна шырокая грамадская гістарычная і палітычная рэабілітацыя сялянскага вызвольнага руху. Сфальсіфікаваная гістарыяграфія нарадзіла міф аб незвычайнай паслухмянасці і цярплівасці беларуса, асабліва вяскоўца. Але, як сведчаць крыніцы, выключэннем беларусы не былі, змагаліся за лепшае, цывілізаванае жыццё.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук**

** Вячаслаў (Вацлаў) Антонавіч Адамовіч — вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху, адзін з лідэраў яго правага паланафільскага крыла, палкоўнік царскай арміі. Нейкі час служыў у Чырвонай Арміі, камандаваў Полацкім палком, у 1919 г. са зброяй і амуніцыяй перайшоў да палякаў.*

*** Усе атаманы былі з мясцовых, толькі Міхась Жылінскі, родны брат вядомага эсэра Фамы Жылінскага, 23-гадовы ваенны кіраўнік Ігуменскага ваеннага камісарыята, родам быў з Койданава.*

# ДОМ ПАД ЛЕСАМ

*(Пачатак на стар. 8-9)*

зала яна, таксама быццам смуткуючы па роўні. І праўда, дачнікаў ужо амаль палова вёскі, паміраюць старыя, прадаюцца хаты... Заспяшалася дамоў, успомніўшы, быццам можна было нешта паправіць: яна ж так і не падала цётцы Анці вады, тая заходзіла апоўдні, не магу пракаўтнуць, у роце сухата, жалілася, ні ты калі што добрае з'еў, ні ты што добрае знасіў, без палудня во, самы гіль, — як ухапілі раніцай па яйку, то і цяпер сыты. Забавілася на хвіліну — і зноў у поле. Не падала на тым разе, як папрасіла, кружку...

Можа, і не дакарала б пасля ўсяго, але карцела зайсці да цёткі Анці па старой звычцы хоць на хвілінку. Хто вячэраў, хто мыў нанач ногі. Стол ужо стаяў адсунуты, сям'я пабольшала, прыехалі памагчы сенаваць з горада сыны. Нізкая лямпачка над сталом высвечвала толькі схіленыя галовы, ціхія стомленыя твары. Малы ўнук нахіляецца над місай на падлозе, як над бягучай вадой, мые твар, потым залазіць з ножкамі, плёскаецца. Баба стаіць над ім, трымае ручнік. Зачэрпнула з вываркі на падлозе вады, плюснула ў слоік, дзе было варэнне, п'е стоячы, прагна, да смаку, упусціла з рук чарпалку, бы незнарок, ды ведае, што трапіць. Кожны рух увечары надта дарагі. Малы, сеўшы на самы брыжок, можа, і заснуў, раптам кулікнуў бабе пад ногі, як птушаня, з белага ўлоння місы. Тая крыкнула, засварылася, шкуматнула за каўнер, падняла, і зноў ціха. Яна яшчэ не выпусціла лейцы з рук, толькі во на момант паслабіла. А бывае, што ўсе пасядуць вячэраць напроці тэлевізара, на лепшай палавіне, і яна сядзе разам і засне. Яе не чапаюць, сцішана гавораць, смяюцца, бы званочкі на мяжы каля яе ў галавах. Ускінецца, абвядзе невідушчымі вачыма хату, як не пазнаючы месца. "Вады..." — папросіць. Прынясуць, а яна зноў спіць. Яшчэ, пэўна, дзьме ёй у твар сухаветрыца, яшчэ не выйшаў з яе, як з вячэрняга поля, вялікі паўдзённы пал...

І на небе запальваюцца ціхія агні, нізкія, пэўна, вячэрае за свечкай у царстве нябесным ейная мацерына, сялянская радня. А што, калі і там яны не пазавуць да сябе вячэраць, угневаўшыся, што не прала, не ткала разам, не сенавала? Ці прабачаць, што зарасло травойсенажаткай роднае селішча, зямля пустуе...

Неяк ідучы з сяброўкай праз суседнюю вёску да крамы за хлебам, Юльча раптам спынілася каля хаты на пагорку. Галубовая фарба на сценах патрэскалася, месцамі абсыпалася, старыя дошкі зніціліся, аж свіцяцца. Вокны без фіранак, адно напроці другога, чыста, празрыста праз усю хату, нават панадворак відзён на тым баку, чапяла, патэльня на прыпечку, саганы... "Нежылы дом?!" — узрушана прагаварыла. Сяброўка пацягнула за рукаў, усцішваючы, а можа, анёл-ахоўнік незалюбіў. Бо каля хаты нерухома стаяла, склаўшы рукі, старая жанчына, таксама ў нечым зніцелым, выцвілым. Галубовыя вочы, набожна ўшчуваючы, пазіралі на незнаёмых людзей. І голасу не падала, так і стаяла, бы вынесены з пакінутага жылля стары абраз... Юльча сумелася: няўжо гэта яшчэ жыве ў ёй падсвядома пачуццё бяздомнага чалавека, які слепа месціцца пад чужой страхой, век шукае сабе прытулак?..

Позняй восенню, ад'язджаючы на зіму ў горад, Юльча, як заўсёды, развітвалася з домам, з цёткай Анцяй. Ужо яна і за парогам. Тая, стоячы каля веснічак, сказала, быццам незнарок:

— Я ўсё хачу ў цябе, Юльча, запытацца: ці відаліся ўлетку з твайго акна мае макі?

Няўжо наўмысна была пасеяла якраз насупраць?! І цяпер, здаецца, трапечацца святло поўдня на кончыках рознакаляровых пялёсткаў. Праз нескончаныя затокі бульбы, праз платы перакінула яна да Юльчы вясёлку сваёй кароткай, як макаў цвет, на адзін дзень, сялянскай уцехі. Юльча адчула, на момант, што яна, як у першыя дні тут, у вёсцы, шчымліва любіць гэты складаны свет. Вярнулася, зноў таропка пайшла па садзе, абыйшла ўсю сялібу, каб паспець абнесці сабой, як любоўнай чашай, кожны куток свайго засмучонага апошнім часам Дома пад лесам.



**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Нэлі Тулупавай з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — трагічнай смерці маці і бацькі.**

**Рэдкалегія і калектыў часопіса "Вожык" выказваюць глыбокае спачуванне Нэлі Іванаўне Тулупавай, якую напаткала цяжкае гора — трагічная смерць маці і бацькі Янкі Тулупава — некалі актыўнага аўтара "Вожыка". Хай наша жалобнае сяброўскае слова хоць трошачкі сыме Ваш боль і смутак ад непапраўнай страты.**

**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 15.12.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

